НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 22 (955) 15 чэрвеня 2016 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Новы этап

Падпішыся на штомесячнік «Наша Ніва»: добрая аналітыка, рэпартажы, гутаркі, гісторыя і літаратура. **Старонка 2.**

Еўра-2016

## Першыя зоркі



**Старонка 9.**

# Клінцы: Расія размяшчае войскі на самай мяжы Беларусі

Пасол Расіі тлумачыць гэтае размяшчэнне неабходнасцю процістаяць Украіне, але геаграфія абвяргае яго словы. **Старонка 3.**






**Расійскія танкі ля беларускай мяжы ў Клінцах.**

## Тэлезорак не сустракаюць так, як сустракалі з турмы асуджаную дырэктарку супрацоўнікі Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі

Пасля двух гадоў у СІЗА **Ганна Шарэйка** з трыумфам вярнулася на роднае прадпрыемства. З трыумфам, хоць яе і прызналі вінаватай.



Раніцай у панядзелак 13 чэрвеня людзі пачалі збірацца перад корпусам праўлення за дзве гадзіны да пачатку работы. У руках яны трымалі кветкі, шарыкі. Па акрузе прайшла вестка, што Ганна Шарэйка выйдзе на работу.

За два гады любоў да Шарэйка тут не толькі не знікла. Наадварот, яна ўмацоўвалася, бо без Ганны калісьці паспяховае прадпрыемства паціху кацілася ўніз. І вызваленне дырэктаркі многія ўспрынялі з сапраўднай радасцю. Бо яшчэ падчас суда рабочыя выказвалі меркаванне, што нармальная праца і нармальныя заробкі наўпрост залежаць ад кіраўнічага таленту Шарэйка. У той жа час менавіта кіраванне фабрыкай і прывяло жанчыну за краты — дзяржава палічыла, што грашыма дырэктарка распараджалася няправільна.

**Працяг на старонцы 6.**

## Былы міністр прадаў свой катэдж у Драздах са зніжкай $1 мільён

Сям'і Галаванава ўдалося абнаявіць бонус. Старонка 5.

## Вялікія, шляхетныя ідэі, якім не наканавана збыцца

Сто гадоў назад нарадзілася канцэпцыя Балта-Чарнаморскага саюза. Старонка 13.

## Сын кажа: «Я памру ў гурбе снегу»

Бацькоўская драма Змітра Галко. Старонка 10.

# Новая зараза «тута абсалюта» паграажае знішчыць ураджай памідораў

Лета — час свежай садавіны і гародніны. На многіх беларускіх дачах цяпер імкліва пайшлі ў рост памідоры. Але ў нашай краіне з'явілася насякомае, якое сур'ёзна пагражае ўраджаю гэтай паслёнавай культуры. Называецца гэтая трасца «таматная моль» (навуковая назва «*Tuta absoluta*»).

Таматная моль можа вынішчаць не толькі памідоры, але і баклажаны, салодкі перац і нават бульбу. Пры добрай распаўсюджанасці і адсутнасці супрацьдзеяння яна можа знішчыць да 100% ураджаю.

Сёлета з такой праблемай вельмі сур'ёзна сутыкнулася Афрыка, асабліва Нігерыя, у некаторых рэгіёнах якой тута абсалюта вынішчыла ажно 90% усяго ўраджаю памідораў. Гэта проста перавярнула мясцовы рынак дагары нагамі, бо цэны на памідоры ўзняліся ў 15 разоў!

Шкоду гародніне наносяць менавіта лічынкі і вусені, якія знішчаюць самі расліны і пашкоджваюць плады. Але шкодзяць яны толькі зялёным, яшчэ не саспелым пладам. Моль адкладае яйкі, з якіх вылупліваюцца вусені. Яны імкліва пачынаюць рабіць дзіркі ў лісці і сцёблах раслін, што прыводзіць да вельмі хуткай іх гібелі. Да таго ж таматная моль можа развіць устойлівасць да пестыцыдаў на працягу аднаго сезона. Гэта чужародны від, таму ў яго вельмі мала натуральных ворагаў па-за межамі Паўднёвай Амерыкі, якія маглі б аператыўна яго вынішчаць.





Таматная моль прыйшла ў Еўропу з Паўднёвай Амерыкі, а дакладней з Перу, дзе ўпершыню была заўважаная ў 1917 годзе. Першай краінай, якая спазнала памідорнае спусташэнне ў выніку нашэсця таматнай молі, стала Іспанія ў 2006 годзе. Затым тута абсалюта распаўсюдзілася далей па кантыненце. Амаль ва ўсіх краінах Еўропы заўважалі асобін гэтага насякомага.

Не з'яўляецца выключэннем і Беларусь. У 2010 годзе тута абсалюта была ўключаная ў пералік шкоднікаў, хвароб раслін і пустазелля, якія з'яўляюцца карантыннымі аб'ектамі для Беларусі. У маі 2011 года яна была ўпершыню выяўленая ў Гомельскім раёне ў КСУП «Брылёва» ў цяпліцы з таматамі плошчай 3 га. Пакуль, на шчасце, нам невядомыя вялікія нашэсці гэтага насякомага.

Тута абсалюта мае вельмі высокую здольнасць размнажэння. Пры спрыяльных умовах шкоднік можа ствараць па 10—12 пакаленняў у год. Мінімальная тэмпература для размнажэння складае 9°С. Насякомыя могуць зімаваць ва ўсіх стадыях: у стадыі яйка, лічынкі, кукалкі і дарослай асобіны.

Лічынкі, якія толькі што вылупіліся, невялікага (0,5 мм) памеру і жаўтлявага колеру. Па меры сталення лічынка робіцца жоўта-зялёнага колеру, за яе галавой з'яўляецца чорная паласа. Дарослая лічынка дасягае памераў прыблізна 9 мм са спінкай ружаватага колеру. Кукалкі светла-карычневага колеру, памерам прыблізна 6 мм. Дарослыя асобіны молі шэра-карычневага колеру, памерам прыблізна 6 мм і маюць размах крылаў 10 мм. Самцы трохі цямнейшыя за самак.

Універсальных метадаў барацьбы з таматнай моллю пакуль яшчэ не вынайшлі. У Паўднёвай Амерыцы і Афрыцы шырока ўжываюцца спецыяльныя пасткі, прынцып дзеяння якіх палягае на прываблiванні насякомых ферамонамі. Але яны не дапамагаюць пры масавым нашэсці таматнай молі. Яшчэ адным метадам з'яўляецца развядзенне «*Nesidiocoris tenuis*» — драпежнага клапа-слепняка, які актыўна ўжывае ў ежу не толькі лічынкі і яйкі таматнай молі, але і іншых шкоднікаў.

Таксама добрым выратаваннем бачыцца выкарыстанне спецыяльнага грыбка, які будзе ўводзіцца ў глебу і забіваць таматную моль яшчэ на стадыі кукалкі. Цяпер над гэтым працуюць навукоўцы.

Калі вы заўважыце ў сваім агародзе гэтае насякомае, абавязкова звярніцеся ў ДНВА «НПЦ НАН Беларусі па біярэсурсах», каб дапамагчы спыніць распаўсюд дадзенага шкоднага віду.

**Зміцер Міцкевіч**



**Будынак БТ закідалі фарбай**

Будынак Белтэлерадыёкампаніі на Макаёнка, 9 закідалі фарбай. Мяркуецца, што невядомыя кідалі яе ў лямпачках.

Ва ўпраўленні Следчага камітэта па Мінску паведамілі, што раніцай на месца выязджаў супрацоўнік Першамайскага раённага аддзела СК. Праводзіцца праверка.

# З'явілася новая галоўная санітарная доктарка

Аляксандр Лукашэнка даў згоду на прызначэнне Наталлі Жукавай намеснікам міністра аховы здароўя, галоўным дзяржаўным санітарным доктарам.

Да гэтага Наталля Жукава была галоўным санітарным доктарам Мінска. Два гады таму ў інтэрв'ю агенцтву «Мінск-Навіны» Наталля Жукава казала, што працуе нават па суботах.

Яе муж таксама доктар, сваёй марай яна называла пабачыць Паўднёва-Усходнюю Азію.

«Не схаваю, шопінг мне прыносіць задавальненне, але часу на яго, на жаль, няма. Дзякуй дарослай дачцэ — дапамагае. У нас супадаюць густы, таму калі яна бачыць у краме нешта, што падыходзіць для мяне, то адразу тэлефануе. Таму мой вобраз фармуецца з улікам больш маладога погляду, хоць у нас бываюць і спрэчкі. Заўсёды дзейнічае



такі аргумент: «Каця, я не магу ў гэтым уборы прыйсці на нараду!» З юнацтва люблю аксесуары. Сімпатычныя рэчы можна знайсці і ў ЦУМе, і ў крамах брэндавага адзення. На рынак у Ждановічах наведваюся толькі як санітарны доктар», — казала Наталля Жукава.

**ЗП**

## Дзе варта быць

**Стала вядома праграма ўрачыстасцяў у Будславе**

Сёлета Будслаўскі фэст пройдзе 1 і 2 ліпеня.

**1 ліпеня**
13.00 — 17.00 — сустрэча і прывітанне пілігрымаў кусташам а. Віктарам Бурлакам OFM
17.00 — евангелізацыйная праграма
18.00 — святая Імша
20.00 — Акафіст у выкананні хору Грэка-Каталіцкай Царквы
20.30 — марыйныя Нешпары
21.30 — рахунак сумлення
22.30 — музычная пастаноўка на Год міласэрнасці
23.30 — працэсія з копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай
24.00 — святая Імша

**2 ліпеня**
02.00 — моладзевая праграма ў палатачным гарадку
02.00 — святая Імша паводле грэка-каталіцкага абраду
04.00 — ададрацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту
05.30 — Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі
06.00 — святая Імша перад абразом Маці Божай
08.30 — святая Імша (на польскай мове)
10.00 — даклад з нагоды 25-годдзя Мітраполіі
11.00 — святая Імша з удзелам папскага легата кардынала Крыстафа Шонбарна

## Прыватныя абвесткі

**Віншуем Вераніку і Алеся Лагвінцоў** з нараджэннем сына! Хай гадуецца здаровы на радасць бацькам.

**Сябры**

**Прадам усякую ўсячыну.**
Запчасткі на Mersedes-123 кузаў, 300Д.
Натуральны чорны паўкажушок з аўчыны новы, насіць не знасіць Вам яго.
Хромавыя і ялавыя боты памеру 40,41,42.43. Керзавыя новыя п.45.
Боты вырабу часоў СССР.
Маслабойку ручную з дрэва 1970 г.н., як новая.
Чыгуны алюміневыя з чугуну СССР — з маленькага да вялікага.
І многа яшчэ што.
Тэлефануйце, пытайцеся 029-168-64-34, альбо 029-666-45-29, альбо 033-638-43-68

## Апытанне на nn.by

**Ці хочаце Вы, каб у Беларусі адбылася сустрэча Папы і Патрыярха Маскоўскага?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 566 | 34% |
| Не | 673 | 40% |
| Мне ўсё адно | 433 | 26% |

Усяго адказалі 1672

## Самае чытанае на nn.by за 8 — 14 чэрвеня

1 Другакурснік журфака расказаў, чаму піша здзекілівыя артыкулы пра апазіцыю на чарнасоценскі сайт «Румола»
2 Расійскія фанаты атакавалі сектар Англіі пасля матча чэмпіянату Еўропы ВІДЭА
3 У выніку нападу на гей-клуб у Фларыдзе загінулі — 50 чалавек
4 У ЗША на канцэрце застрэлілі спявачку
5 «Расія — гэта вайна!»: Дашкевіч правёў пікет на адкрыцці графіці «Мінск—Масква» ФОТА, ВІДЭА
6 «Хай мяне асудзяць за мае словы, але я скажу» — першае інтэрв'ю Ганны Шарэйка
7 Стомлены Кабякоў, бык-асемяніцель і прыгожыя беларускія дзяўчаты. Рэпартаж Калеснікава пра візіт Пуціна ў Беларусь
8 У Марсэлі адбыліся масавыя сутыкненні англійскіх і расійскіх фанатаў
9 Бацька стралка з Арланда: Мужчыны цалаваліся і абдымаліся на вачах яго жонкі і сына
10 У Мінску зламаўся самалёт з расійскімі ўдзельнікамі Форуму рэгіёнаў Беларусі і Расіі


# Новы этап

Ад 1 ліпеня «НН» будзе выходзіць раз на месяц на 24 старонках.

**Афармленне падпіскі цяпер даступнае:**
- праз сістэму «Інтэрнэт-падпіска» на сайце **www.belpost.by**;
- праз плацежна-даведкавыя тэрміналы;
- у аддзяленнях паштовай сувязі;
- дома, запрасіўшы паштальёна.

Падпісацца можна з любога месяца.

Індывідуальная падпіска на 2016 (індэкс у каталозе — **63125**) — **27 100** руб./месяц

Для прадпрыемстваў на 2016 (індэкс — **631252**) — **27 400** руб./месяц

**Атрымаць газету магчыма:**
- па ўказаным адрасе (у паштовую скрыню);
- у абаненцкую скрыню або «Да запатрабавання» (у пунктах паштовай сувязі);
- з рук у рукі (з дастаўкай да кватэры).

Афармляючы падпіску на абаненцкую скрыню або «Да запатрабавання», можна скарыстацца зніжкай за дастаўку газеты.

# Клінцы: Расія размяшчае войскі на самай мяжы Беларусі

Гаворка ідзе пра 28-ю асобную мотастралковую брыгаду з Екацярынбурга. Яе перадыслакуюць у Клінцы — горад за 40 кіламетраў ад Беларусі, з якога ідзе прамая дарога на Гомель.

Пасол Расіі тлумачыць гэтае размяшчэнне неабходнасцю процістаяць Украіне, але геаграфія абвяргае яго словы.

На ўзбраенні брыгады ёсць танкі, мінамёты і сістэмы рэактыўнага агню. Агульная колькасць вайскоўцаў у брыгадзе — недзе ля 3—4 тысяч. Але мясцовыя жыхары пішуць у інтэрнэце, што ўсяго да канца года ў Клінцах чакаюць 7 тысяч вайскоўцаў.

Навошта Расіі база каля Беларусі?

Пакуль прагучала некалькі афіцыйных і неафіцыйных меркаванняў.

Так, агенцтва «Інтэрфакс» са спасылкай на абазнанага ў сітуацыі чалавека паведаміла, што перадыслакацыя войскаў — гэта адказ Расіі на актыўнасць НАТА ля яе межаў.

У пасла Расіі ў Беларусі Аляксандра Сурыкава знайшлося іншае тлумачэнне: ён сказаў журналістам, што база ў Клінцах накіраваная супраць Украіны.

«Ва Украіне радыкалізм пачынае падымацца. Фармуюцца звышправыя сілы, больш радыкальныя, чым «Правы сектар». Не выключаю, што ва Украіне пачынае пераважаць гледзішча вайны. І на мяжы з Расіяй яго трэба спыніць», — патлумачыў Сурыкаў.

А што кажа геаграфія? Заходняя палова Бранскай вобласці, дзе і знаходзяцца Клінцы, уяўляе сабою балкон, убіты паміж Беларуссю і Украінай — усе буйныя трасы з Украіны, па якіх могуць прайсці войскі, знаходзяцца значна далей на ўсход. І калі б украінцы сапраўды захацелі «напасці» на

Дарэчы, беларускае войска лічыцца экспертамі самым баяздольным ва Усходняй Еўропе. Так, па дадзеных Міжнароднага цэнтра канверсіі за 2014 год, беларускае войска па колькасці цяжкіх узбраенняў пераўзыходзіць усіх суседзяў, апроч Расіі. Так, цяжкай артылерыі ў нас у 1,3 раза болей, чым ва Украіне (без уліку стратаў у АТА), танкаў (каля 1600) — у 2 разы! Агулам жа колькасць нашых рэгулярных войскаў — каля 60 тысяч. Пры патрэбе Беларусь можа мабілізаваць да паўмільёна чалавек. Праўда, некаторыя эксперты глядзяць на магчымасць імгненнага павелічэння асабовага складу ў 10 разоў скептычна.

На дадзены момант найбольш баяздольныя часці ў беларускім войску — гэта войскі спецыяльных аперацый, рэфармаваныя савецкія ПДВ. У нас іх каля шасці тысяч — гэта 38-я гвардзейская асобная мабільная брыгада ў Брэсце, 103-я гвардзейская асобная мабільная брыгада ў Віцебску і 5-я асобная брыгада спецыяльнага прызначэння ў Мар'інай Горцы. Сілы спецаперацый рэгулярна ўдзельнічаюць у вучэннях — як лакальных, так і міжнародных.



Ад Клінцоў да Гомеля — каля 100 кіламетраў, альбо 2 гадзіны язды. Паміж гарадамі пралягае прамая шаша Гомель—Бранск і чыгунка Гомель—Унеча

Расію, то мотастралковая брыгада ў Клінцах адразу ж апынулася б у «катле». Зрэшты, толькі цёмны чалавек можа думаць, што малая бяз'ядзерная краіна можа напасці на вялікую ядзерную дзяржаву.

Аляксандр Лукашэнка канкрэтна пра базу ў Клінцах пакуль ніяк не выказаўся. Выглядае, што нават найвышэйшае кіраўніцтва Беларусі разгубленае.

«Расіяне часта кажуць пра тое, што ля граніц Расіі разгортваюцца новыя кантынгенты НАТА. Трэба падкрэсліць, што перадусім — каля нашых беларускіх граніц», — сказаў Лукашэнка 7 чэрвеня, паказаўшы, што і для яго новую базу патлумачылі «актыўнасцю НАТА».

Тут жа ж Лукашэнка дадаў, што ў выпадку канфлікту першымі ў бой уступяць беларускія войскі.

Але гэта трактуецца экспертамі проста як словы, прыемныя Расіі — ніхто не чакае, што НАТА вырашыць напасці на Беларусь.

У такой сітуацыі шмат хто загаварыў пра падрыхтоўку Расіі да рэалізацыі «крымскага сцэнара» ў самой Беларусі. Маўляў, да іншага войскі ў Клінцах не здатныя — іх вельмі мала, каб супрацьстаяць натаўскім часцям, а вось для таго, каб аказваць ціск на Беларусь — акурат.

Адзін ваенны эксперт таксама назваў войскі ў Клінцах «пстрычкай па носе Лукашэнку», які заўсёды падкрэслівае, што між Масквой і НАТА толькі беларуская армія. Цяпер жа, маўляў, такога козыра ў прэзідэнта Беларусі ўжо не будзе.

Але факт застаецца — мотастралковая брыгада ў Клінцах здольная заняць Гомель за чатыры гадзіны. Прытым што ніякіх вайсковых частак і абаронных структур на сваёй усходняй мяжы Беларусь не мае.

**АГ**

# «Трэба павялічваць войска ў два разы»: ваенныя эксперты пра тое, як Беларусі адказаць на расійскія танкі ля мяжы

Нядаўна стала вядома, што Расія размясціла за 40 кіламетраў ад беларускай мяжы свае войскі — 28-ю асобную мотастралковую брыгаду, якая брала ўдзел у сірыйскай і грузінскай кампаніях.

На ўзбраенні ў брыгады і танкі, і рэактыўныя сістэмы агню. А з Клінцоў — горада, дзе месціцца войскі, — адкрытая дарога на Гомель.

Словам, ёсць падставы задумацца.

Як на гэта рэагаваць Беларусі? Мы запыталіся ў ваенных экспертаў.

Адзін з іх, Андрэй Паратнікаў, кіраўнік аналітычнага цэнтра *Belarus Security Blog*, адразу ўдакладніў, што наўрад ці выпадае гаварыць пра тое, што нейкія меры сапраўды будуць прынятыя.


Андрэй Паратнікаў.


Аляксандр Алесін.

«Ніякіх захадаў у адказ не будзе, бо няма фінансавых і арганізацыйных магчымасцяў, няма палітычнай волі, — сказаў Паратнікаў. — Але правільным адказам было б раўнамернае размяшчэнне войскаў на тэрыторыі краіны. Бо сёння ўсходняя Гомельшчына і Магілёўшчына фактычна не прыкрытыя ніяк. Ёсць база інжынерных войскаў, артылерыстаў, але гэта не сур'ёзна. Паўнавартасных механізаваных частак там няма. Таксама варта было б павялічыць колькасць узброеных сіл у два разы».

Пры гэтым Паратнікаў мяркуе, што яшчэ не прыйшоў час вяртаць пытанне расійскай авіябазы ў парадак дня беларуска-расійскіх адносін.

«Калі казаць пра апошні візіт Пуціна, то я не думаю, што войскі ў Клінцах будуць выкарыстаныя ім як нейкі аргумент пры перамовах. Бо калі гэтае пытанне з ягонага боку будзе паднятае, то гэта будзе выглядаць як не проста шантаж, а як пагроза. І наўрад ці Лукашэнка дазволіць Пуціну размаўляць мовай пагроз і шантажу. Таму і пытанне авіябазы ўвогуле не будзе абмяркоўвацца, таму што расейцы проста чакаюць, пакуль у Беларусі наступіць больш глыбокая фаза эканамічнага крызісу, каб атрымаць адразу ўсё і на тых умовах, якія будуць іх не проста задавальняць, а якія будуць наўпрост імі дыктавацца», — падсумаваў Паратнікаў.

Амаль такога ж меркавання трымаецца і Аляксандр Алесін.

«З вайсковага гледзішча ніякага адказу не будзе, — сказаў Алесін. — Лукашэнка ж сказаў, што гэта тыя часці, якія ў выпадку ўзброенага канфлікту мусяць прыйсці на «дапамогу» Беларусі (але хто збіраецца на нас нападаць?). То бок часці, размешчаныя ў заходніх рэгіёнах Расіі, прыйдуць на дапамогу беларускаму войску, якое мусіць затрымаць праціўніка. Гэта такая афіцыйная пазіцыя. І я думаю, што Лукашэнка не асмеліцца змяніць канфігурацыю і дыслакацыю нашых Узброеных сіл, якія сёння засяроджаныя на заходнім і паўночна-заходнім кірунку супраць НАТА. Збіраць нейкую дадатковую групоўку на ўсходзе? Гэта небяспечны крок для Лукашэнкі. Але трэба ведаць: краіна ў нас невялікая. І ў выпадку патрэбы мотастралковыя злучэнні і сілы спецаперацый можна вельмі хутка перакінуць у любы рэгіён Беларусі. А цяпер, найбольш імаверна, будуць проста ўзмоцненыя сродкі выведкі — беспілотнікі, радыёэлектронная выведка, назіранне з боку памежнікаў за сумежнымі тэрыторыямі».


Расійскія танкі ля беларускай мяжы ў Клінцах.

Таксама Алесін выказаў думку, што ў сённяшніх умовах Лукашэнку вельмі цяжка манеўраваць.

«Лукашэнка цяпер у цяжкім становішчы, нават дзякуючы нашым заходнім партнёрам, якія ставяць новыя базы каля межаў Беларусі. Гэта дае падставы для турботы расейцам, якія прымушаюць Лукашэнку выконваць саюзныя абавязкі. Таму, я думаю, рыторыка Лукашэнкі будзе ўсё больш прарасійскай у гэтым плане, ён будзе казаць тое, што хочуць чуць у Крамлі», — падзяліўся думкамі Алесін.

Дарэчы, у Міністэрстве абароны нам сказалі, што «грамадзяне нашай краіны могуць быць упэўненыя, што ваенная стабільнасць і бяспека Беларусі будзе забяспечаная несумненна».

**Арцём Гарбацэвіч**

# Спецыяліст па акустыцы крышталю стаў рэктарам Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта

Аляксандр Лукашэнка даў згоду на прызначэнне Сяргея Хахомава рэктарам Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францішка Скарыны. На працягу апошніх 12 гадоў ВНУ ўзначальваў Аляксандр Рагачоў.



Хто ж такі Сяргей Хахомаў? Яму 49 гадоў, ураджэнец Гомеля. Фізік, сферай ягоных інтарэсаў лічыцца акустыка крышталю, а таксама электрадынаміка штучных анізатропных структур. Кандыдат фізіка-матэматычных навук (1997), дацэнт (2000). У ГДУ імя Скарыны працуе ад 1995 года.

Хахомаў з'яўляецца аўтарам звыш як 240 навуковых работ, а таксама 8 патэнтных вынаходніцтваў. Сярод яго патэнтаў «Спосаб і прылада для ўзмацнення ультрагукавой хвалі», «Прылада для для вымярэння эліптычнасці папярэчнай акустычнай хвалі» і іншыя. Апошнім часам ён займаў пасаду прарэктара па вучэбнай рабоце.

Зменены таксама рэктар у Віцебскім тэхналагічным універсітэце. Адметна, што Валерый Башметаў найдаўжэй займаў гэтую пасаду сярод іншых айчынных кіраўнікоў ВНУ — аж ад 1993 года.

Новым рэктарам стаў не нехта з наменнікаў Башметава, а загадчык кафедры аўтаматызацыі тэхналагічных працэсаў і вытворчасці Андрэй Кузняцоў.

**Зміцер Панкавец**

**Хто з рэктараў найбольш працяглы час знаходзіцца на сваёй пасадзе:**

Вітольд Песціс (Гродзенскі аграрны ўніверсітэт): ад 1995 года

Наталля Баранава (Лінгвістычны ўніверсітэт): ад 1995 года

Валянцін Валетаў (Мазырскі педагагічны ўніверсітэт імя Івана Шамякіна): ад 1997 года

Антон Ятусевіч (Віцебская акадэмія ветэрынарнай медыцыны): ад 1998 года

Ігар Сазонаў (Беларуска-расійскі ўніверсітэт): ад 1998 года.

# Першага намесніка кіраўніка ААЦ прызначылі ў Міністэрства інфармацыі

Уладзімір Рабаволаў стаў намеснікам міністра інфармацыі. Да гэтага ён займаў пасаду першага намесніка начальніка ў Аператыўна-аналітычным цэнтры пры прэзідэнце.

ААЦ — адна з самых закрытых структур у Беларусі. Напрыклад, у адкрытым доступе няма інфармацыі пра біяграфію яго начальніка Сяргея Шпегуна. Што тычыцца Уладзіміра Рабаволава, то ён быў «тварам» ААЦ, менавіта ён даваў інтэрв'ю, у тым ліку недзяржаўным СМІ, ездзіў на міжнародныя канферэнцыі, браў удзел у дыскусіях.

Вядома, што ў прамыя абавязкі ААЦ уваходзіць кантроль за інтэрнэтам. Зрэшты, рэпрэсіўных крокаў у гэтым кірунку заўважана не было. Па словах Лукашэнкі, у цэнтры працуе менш за 100 чалавек. Цэнтр знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці да Адміністрацыі прэзідэнта — у будынку былой Нацыянальнай бібліятэкі на Кірава.

Уладзімір Рабаволаў удзельнічаў у 2013 годзе ў канферэнцыі АБСЕ ў Вене разам з галоўнай рэдактаркай «Хартыі-97» Наталляй Радзінай, а таксама ўладальнікам *tut.by* Юрыем Зісерам. Там Рабаволаў казаў, што Беларусь ідзе па шляху лібералізацыі інтэрнэту.

Менавіта рашэннем ААЦ у свой час даменнай зоны *.by* быў пазбаўлены адзін з найбуйнейшых інтэрнэт-сайтаў краіны *onliner.by*.

Мабыць, у Міністэрстве інфармацыі Уладзімір Рабаволаў будзе адказваць менавіта за інтэрнэт.

**Зміцер Панкавец**



**Уладзімір Рабаволаў з Дуняй Міятавіч, прадстаўніцай АБСЕ па СМІ.**

# Вучэнні «Anakonda-16»: ці ўтрымае НАТА калідор паміж Калінінградам і Беларуссю?

**Наземныя войскі і самалёты з 24 краін паўдзельнічалі ў маштабных вучэннях Anakonda-16, якія разгарнуліся 7 чэрвеня на тэрыторыі Польшчы.**

Згодна са сцэнаром вучэнняў, адна з краін Балтыі стала ахвярай паступовай і нахабнай экспансіі з боку магутнага суседа. Групы баевікоў спрабуюць раздзьмуць масавыя хваляванні, захапіць уладу ў памежных гарадах, пачынаюць атакі на паліцыю і важныя аб'екты гаспадаркі. Адбываюцца кібератакі і спробы захапіць ці пашкодзіць інфармацыйныя сеткі.

Затым адбываецца ўварванне варожых войскаў у Балтыю і Польшчу, працінік імкнецца да анексіі акупаванай тэрыторыі.

Атакуюць «сініх» (Польшчу і яе хаўруснікаў) выдуманыя «чырвоныя» краіны *Bothnia*, *Torrike* і *Lindsey*. Польшча звяртаецца ў НАТА па дапамогу.

Аднак, імаверна, тры выдуманыя «краіны» — гэта тры расійскія вайсковыя кантынгенты, якія знаходзяцца ў Калінінградскай вобласці, на тэрыторыі самой РФ уздоўж межаў Эстоніі і Латвіі, а таксама, як ні сумна, на тэрыторыі Беларусі.

Улічваючы, што сцэнар уключае таксама анексію «чырвонымі» яшчэ адной «выдуманай дзяржавы», магчыма, гэтая дзяржава — Беларусь ці адна з краін Балтыі.

У гэтым кантэксце важнейшым для хаўруснікаў будзе захаваць наземную сувязь паміж Польшчай і Літвой — калідор паміж Беларуссю і Калінінградскай вобласцю РФ.

Тут на дапамогу прыбалтам прыйдуць амерыканскія механізаваныя часткі. Каб забяспечыць іхны марш нават у выпадку знішчэння мастоў, сапёры павінны максімум за гадзіну пабудаваць мост праз Віслу ў месцы, дзе рака мае прыкладна кіламетровую шырыню.

Разгорнуцца нябачныя аперацыі ў сферы радыёэлектроннай барацьбы. Жыхароў Торуня папярэджваюць пра магчымыя перабоі з сувяззю.

Плануецца правесці вучэнні сіл супрацьпаветранай абароны, а таксама знішчэнне ракетна-артылерыйскім ударам супрацьпаветраных комплексаў Расіі С-400, якія, калі будуць стаяць у Калінінградзе, будуць моцна замінаць авіяцыі саюзнікаў.



**Амерыканскія жаўнеры праязджаюць літоўска-латвійскую мяжу перад пачаткам вучэнняў.**

Сёлета афіцыйная «тэма» вучэнняў уключае супрацьстаянне «гібрыдным» пагрозам — то бок спалучэнню дзеянняў прапагандыстаў і ваеннага характару, у тым ліку з боку войскаў і спецыяльных падраздзяленняў, якія дзейнічаюць пад чужым сцягам.

«Сцэнар вучэнняў заснаваны на рэальных падзеях... На рэальных пагрозах», — адзначыў прадстаўнік Аператыўнага кіравання Узброеных сіл Польшчы падпалкоўнік Пётр Валатэк.

У *Anakonda-16* першы раз бяруць удзел сілы Тэрытарыяльнай абароны Польшчы, якія заraz арганізуюцца як асобны від узброеных сіл краіны. Створаныя па досведзе вайны ва Украіне мясцовыя фарміраванні будуць абараняць важныя аб'екты ў сваіх раёнах, дапамагаць рэгулярнай арміі і ліквідаваць варожых дыверсантаў.

Відавочна, прычынай падрыхтоўкі да такой пагрозы сталі дзеянні Расіі ва Украіне — падчас анексіі Крыма і вайны на Данбасе.

Аналітык польскага Інстытута міжнародных спраў Артур Карпчык лічыць, што гэтыя манеўры — сігнал Маскве, дэманстрацыя палітычнай волі саюзнікаў, здольнасці іх войск дзейнічаць у выпадку канфікту разам і вельмі аператыўна.

«Мэта — праверыць здольнасць краін Саюза абараніць свой усходні фланг», — сказаў міністр абароны Польшчы Антоні Мацярэвіч.

«Мэта *Anakonda-16* — аб'яднаць усіх, каб паказаць, што мы стаім поплеч з польскім народам, з польскай арміяй і НАТА, каб усе краіны НАТА заставаліся вольнымі і незалежнымі», — сказаў у пачатку вучэнняў начальнік штаба Сухапутных войскаў ЗША Марк Мілі.

Адпрацоўваецца таксама частковая мабілізацыя рэзервістаў у Польшчы і краінах Балтыі, дапамога вялікай колькасці цывільных і вайсковых ахвяраў — вайна ва Украіне навучыла НАТА, што Масква будзе масава выкарыстоўваць артылерыю і цяжкую бранятэхніку.

Амаль адначасова на Балтыцы праходзілі вайскова-марскія вучэнні *Baltops-2016*, а ў краінах Балтыі — вучэнні *Saber Strike*.

Хуткасць рэакцыі, гатоўнасць да супрацоўніцтва частак розных армій пад адным камандаваннем, аператыўнасць руху па зямлі, па моры і ў паветры — вось галоўная ідэя *Anakonda-16*.

Паралельна адбываюцца вялікія вучэнні шматнацыянальных паветрана-дэсантных войск *Swift Response — 16*. Яны пачаліся яшчэ 27 мая, а скончацца толькі 26 чэрвеня.

Больш за 5000 дэсантнікаў і лётчыкаў краін НАТА дэманструюць максімальна хуткую рэакцыю на крытычную сітуацыю.

Гэтак, батальён 1-га палка 82-й паветрана-дэсантнай дывізіі ЗША за мінімальны тэрмін сядзе ў самалёты на сваёй амерыканскай базе і за 10 гадзін будзе ў Еўропе — з дазапраўкай самалётаў па дарозе і планаваннем будучага бою.

Над тэрыторыяй Польшчы яны аб'ядноюцца з брытанскімі і польскімі парашутыстамі і скокнуць на зямлю ў раёне горада Торунь. Асобна будуць праходзіць вучэнні дэсантнікаў у Нямеччыне.

Зараз «Кантынгентам глабальнага тэрміновага рэагавання» ў ЗША з'яўляецца 1-я брыгадная група 82 дывізіі ПДВ. Асобна ў Еўропе прысутнічае 173-я паветрана-дэсантная брыгада ЗША, падраздзяленні якой возьмуць удзел у дэсантах на поўначы Польшчы.

Менавіта дэсантнікі, як плануецца, возьмуць пад кантроль галоўныя вузлы камунікацый і масты, праз якія потым дзякуючы розным этапам вучэнняў у бок краін Балтыі пойдзе амерыканская цяжкая бранятэхніка ў рамках вучэнняў *Anakonda-16*.

Самыя вялікія вучэнні сіл НАТА на тэрыторыі Польшчы ў гісторыі гэтай краіны сталі дэманстрацыяй моцы і рашучасці альянсу бараніць сваіх сяброў ад любой пагрозы перад самітам НАТА ў Варшаве 8—9 ліпеня.

На саміце, як чакаецца, будзе прынята рашэнне пра сталае размяшчэнне значнай колькасці саюзных войск ў Польшчы і краінах Балтыі, піша *theguardian.com*.

**Аляксандр Гелагаеў**

# Былы міністр прадаў свой катэдж у Драздах са зніжкай $1 мільён

Сям'і Галаванава **ўдалося абнаявіць бонус** за лаяльнасць.

У апошнія тыдні з сайтаў агенцтваў нерухомасці знікла аб'ява аб продажы катэджа ў Драздах на завулку Ціхім. Гэтым домам плошчай 267 м² валодала сям'я былога міністра юстыцыі Віктара Галаванава. Цяпер ён працуе рэктарам у Беларускім інстытуце правазнаўства.

Мы ўжо пісалі пра спробу Галаванавых абнаявіць «бонус», атрыманы ад дзяржавы ў 2000-я. Сын міністра (дарэчы, выкладчык Інстытута правазнаўства) у свой час атрымаў катэдж у падарунак ад бацькі, а пасля выставіў яго на продаж за $1,4 мільёна.

На фоне крызісу цана выглядала неадэкватнай рынкавым рэаліям. Гаспадарам даводзілася раз за разам зніжаць яе.

І вось цяпер, як стала вядома «Нашай Ніве», Галаванавы ўсё ж змаглі знайсці купца. Угода была зарэгістраваная ў канцы мая 2016 года.

Колькі ўдалося атрымаць сям'і былога міністра? У дамове запісана 8 мільярдаў 235 мільёнаў 360 тысяч беларускіх рублёў. Па тагачасным курсе гэта роўна $420 тысяч. Атрымалася каля $1570 за квадратны метр.

Такім чынам, зніжка ў параўнанні з першаснай прапановай склала каля $1 мільёна.

Аднак нават у такім разе кошт дома сям'і былога чыноўніка адпавядае сярэдняму заробку «чыстымі», атрыманаму беларусам за 115 гадоў.

Купіла дом 62-гадовая жыхарка Мінска. Яна непублічны чалавек, яе прозвішча нідзе раней не фігуравала.

Апроч дома, ёй дасталіся 9,94 соткі элітнай зямлі. Праўда, уласнікам надзела фармальна лічыцца Рэспубліка Беларусь.

Рэч у тым, што чыноўнікам накшталт Галаванава, якія не трапілі ў першы «драздоўскі прызыў» (там былі Віктар Шэйман, Міхаіл Мясніковіч і дзясяткі іншых), зямля выдзялялася не ва ўласнасць, а па праве пажыццёвага спадчыннага валодання.

Прадаўшы дом у Драздах, Галаванаў на вуліцы не застанецца. Яшчэ з 1990-х у яго ёсць прасторная трохпакаёўка ў «чырвоным доме» на вуліцы Максіма Танка.

**Ягор Марціновіч**



## Беларускія джынсы шыюць у Туркменістане

Ільняныя джынсы будуць каштаваць не больш за мільён.



**Намеснік старшыні «Беллегпрама» Анатоль Суботка прыйшоў на прэс-канферэнцыю ў тым самым беларускім джынсавым пінжаку, які пакуль нельга купіць.**

Беларускія джынсавыя з ільном пінжакі з'явяцца ў ліпені ў продажы ва ўсіх крамах Аршанскага льнокамбіната. Пра гэта заявіў старшыня канцэрна «Беллегпрам» Мікалай Яфімчык. «Працэс гэты няпросты. Мы ўжо шмат напрацавалі, але хацелі б яшчэ, каб тканіна была эластычнай, ёсць такая структура з лайкрай», — патлумачыў ён.

Яфімчык папярэдзіў, што льняныя джынсы будуць каштаваць даражэй за традыцыйныя баваўняныя. Але наўрад ці больш за мільён рублёў.

Айчынную джынсавую тканіну распрацоўвалі ў Оршы каля сямі гадоў. У выніку лён вырашылі на трацыну разбавіць бавоўнай. Каб зрабіць таннейшай вытворчасць, на ручныя вытворчыя аперацыі беларускі джынс будуць вазіць у Туркменістан.

**БЮ**

## Ладуцька прапаноўвае збанкрутаваць Мінскі мотавелазавод

На калісьці шматтысячным заводзе сёння працуе толькі каля 90 чалавек.

Былы кіраўнік Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька ўзначаліў прадпрыемства ўлетку 2015 года. На калісьці шматтысячным заводзе сёння працуе толькі каля 90 чалавек. Паведамляецца, што «на плыву» застаўся адзін зборачны цэх. Зношанасць энергасетак складае 100%.

Амаль усё абсталяванне распрададзенае папярэднім гаспадаром завода, а тое, што засталося, састарэла. За мінулую зіму ацяпленне на заводзе ўключалі толькі на адзін месяц, на большае не было грошай. Дах на прадпрыемстве працякае, і над некаторымі працоўнымі месцамі падвешаная фанера, каб дождж не ліў за каўнер.

Па словах Ладуцькі, ён звяртаўся на беларускія прадпрыемствы, каб даведацца, хто можа нядорага выпускаць камплектуючыя да вела- і мотатэхнікі. Пастаўшчыкоў не знайшлося.

Дырэктар лічыць, што ААТ «Мотавела» трэба правесці працэдуру банкруцтва. Тады ўся маёмасць і зямля пяройдуць у камунальную ўласнасць. Пасля гэтага на базе прадпрыемства можна будзе стварыць рэспубліканскі інавацыйны тэхнапарк або выставачны цэнтр. Пару цэхаў Ладуцька пагаджаецца пакінуць для вытворчасці мотавелатэхнікі.

Другім варыянтам ён называе выкарыстанне недазагружаных прадпрыемстваў пад вытворчасць вела- і мотатэхнікі. На іх ёсць не толькі вольныя плошчы, але і пэўныя групы абсталявання. Застанецца толькі даўкамплектаваць вытворчасць сучаснай аснасткай. Але для гэтага, кажа Ладуцька, ТАА «Мотавелазавод» мусіць працаваць у сістэме Міністэрства прамысловасці.

**«Мінск-Навіны»**

## На рынку нерухомасці летняе зацішша

Цэны не падаюць і не растуць.

Ад канца вясны кватэры ў Мінску фактычна не таннеюць, аднак і не думаюць даражаць. Паводле штотыднёвых падлікаў партала *Realt.by*, сярэдняя цана складае $1171 за квадратны метр.

Пры гэтым колькасць кватэраў, выстаўленых на продаж, працягвае змяншацца. У базах агенцтваў нерухомасці каля 7300 кватэр, тады як некалькі месяцаў таму лічба ледзь не дайшла да 10 тысяч кватэр

Новабудоўлі каштуюць прыблізна столькі ж, як і другасны рынак — у сярэднім $1144 за метр.

А вось у абласных цэнтрах кватэры працягваюць таннець. Самы дарагі —Брэст, тут прапануюць жыллё па $794 за метр. З адваротнага боку рэйтынгу Віцебск — $605 за метр.

**ЯМ**

### Сціісла

**Бізнэс абкладуць новым падаткам?**

Міністэрства ЖКГ падрыхтавала праект новага ўказа. Дакумент прапануе даць права мясцовым органам улады прыцягваць арганізацыі ўсіх форм уласнасці да добраўпарадкавання населеных пунктаў. Арганізацыі могуць абавязаць адлічваць на гэтыя патрэбы да 1% ад выручкі. Бізнэс-арганізацыі пратэстуюць супраць прапановы.

**Стаўка рэфінансавання — 20%**

З 1 ліпеня стаўка апусціцца з 22% да 20%. Папярэдняе зніжэнне адбывалася ў пачатку мая. Рашэнне Нацбанка сведчыць пра стабілізацыю на фінансавым рынку краіны. У выніку зменшацца стаўкі па крэдытах і дэпазітах.

**«Трастбанк» змяніў назву на банк «Рашэнне»**

Рэбрэндынг звязаны са спробай змяніць імідж — доўгі час на банк былі накладзеныя амерыканскія санкцыі за «адмыванне грошай для рэжыму Садама Хусэйна». Цяперашні ўласнік «Рашэння» — грамадзянін Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў Махамед Ахмад Салем Халіфа Алзараім аль-Сувайдзі.

**Расійскі «Дыснэйлэнд» будзе каштаваць 4 мільярды**

Прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін падтрымаў праект комплексу для сямейнага адпачынку «Чароўны свет Расеі», які плануецца стварыць на мяжы Калужскай і Маскоўскай абласцей. Кошт праекту ацэньваецца на $4 мільярды. Цікава, што будаўніцтва рускага «Дыснэйлэнда» пад Калугай меркавалася яшчэ ў 2012 годзе. Тады ствральнікі прасілі каля $250 мільёнаў.

**Адкрыўся чарговы мэблевы гіпермаркет**

Гандлёвы цэнтр «Цівалі-мэбля» запрацаваў у Мінску побач са станцыяй метро «Спартыўная». На тэрыторыі каля 5 тысяч квадратных метраў прадстаўлена каля 50 брэндаў.

**У агенцтва нерухомасці «Пакадан» забралі ліцэнзію**

Такое рашэнне было прынята Міністэрствам юстыцыі па выніках скаргі адной кліенткі. «Пакадан» завысіў ёй тарыфы на рыэлтарскія паслугі — агулам на 10,65 мільёна рублёў.

**ЯМ**




**Фотафакт**

### Адкрыўся бізнэс-цэнтр «з нацыянальнымі матывамі»

14-паверховы будынак з назвай «Красавік» знаходзіцца ў Мінску на рагу праспектаў Дзяржынскага і Жукава. Брытанскія інвестары пабудавалі офісы ў фармаце адкрытай прасторы, тут ёсць велапаркоўкі, канферэнц-залы, кафэ, фітнэс-цэнтр і прыбудаваны закрыты паркінг.

Паверхі будуць мець назву беларускіх славутасцяў, а нумарацыя будзе дублявацца назвамі месяцаў на беларускай мове.

Кампанія *Epam Systems* арандуе «Красавік» цалкам. Пасля аддзелкі ў яго пераедзе частка каманды распрацоўшчыкаў.

# Тэлезорак не сустракаюць так, як сустракалі з турмы асуджаную дырэктарку супрацоўнікі Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі

Працяг са старонкі 1.

Шарэйка выйшла на работу ў блакітным дзелавым касцюме, апісвае Тут.бай. Яе сустрэлі апладысментамі, як кіназорку. Уручылі букеты, хлеб-соль. Яна пакланілася сваім работнікам у пояс і падзякавала ім за падтрымку. А ўжо а 8 раніцы ў яе пачаўся першы працоўны дзень.

### Вінаватая, але вольная

За тры дні да таго, у пятніцу 10 чэрвеня, у Вярхоўным судзе было людна — агучваўся прысуд па справе Ганны Шарэйкі. На пасяджэнне прыйшлі не толькі журналісты, але і сваякі Шарэйкі і іншых абвінавачаных, а таксама з Віцебска прыехалі супрацоўнікі птушкафабрыкі.

Перад пачаткам пасяджэння Ганна Шарэйка і Вальдэмарас Норкус (яе жаніх і бізнэс-партнёр, праз закуп кармоў у якога сенатарка і трапіла за краты) былі радасныя: усміхаліся, віталі знаёмых і сваякоў.

Было многа і журналістаў з гатовымі шаблонамі тэкстаў, у якія заставалася толькі ўпісаць тэрміны. Тым больш нечаканым аказалася рашэнне суда.

Ганна Шарэйка была не проста дырэктаркай. Яна была яшчэ і членам Савета Рэспублікі. Разам з падначаленымі і бізнэс-партнёрамі затрымалі яе яшчэ ўлетку 2014 года. Агулам на лаве падсудных сядзела 7 чалавек. У тым ліку і літовец Вальдэмарас Норкус, каханы Ганны Шарэйкі. Падчас судовага працэсу Шарэйка з Норкусам вырашылі афіцыйна аформіць свае адносіны і нават, пакуль знаходзіліся ў СІЗА, прасілі зарэгістраваць шлюб. Праўда, суд ім адмовіў.

Шэсць абвінавачаных папрасілі іх апраўдаць. Сёмы, Ліяранцэвіч, адзіны, хто прызнаў сваю віну, папрасіў вынесці «аб'ектыўны прысуд».

Пракурор прасіў па 2,5 года Шарэйка і яе каханку і бізнэс-партнёру Вальдэмарасу Норкусу. Для намеснікаў Шарэйка, Семчанкавай і Канавальчанкі, а таксама расейскага бізнэсмена Разжывіна пракурор запрасіў па 2 гады пазбаўлення волі са штрафам у 100 базавых. Усіх — з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады на працягу 5 гадоў і з адбываннем у папраўчай калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму. Ліяранцэвічу, спецыялісту фабрыкі, і Камарову, намесніку па фінансах, — 2 гады абмежавання волі без накіравання ў папраўчыя ўстановы.

У прынцыпе гэтыя ж тэрміны ўсе і атрымалі. І Ганну Шарэйка, і астатніх суддзя прызнаў вінаватымі.

Шарэйка атрымала 2 гады 6 месяцаў калоніі агульнага рэжыму і штраф у 31 мільён. Грамадзянін Літвы Вальдэмарас Норкус — 2 гады калоніі агульнага рэжыму і штраф у 31 мільён, вырашыў суддзя Уладзімір Давыдаў. Таксама і Шарэйка, і Норкус пазбаўлены права займаць кіраўнічыя пасады.

Надзея Семчанкава атрымала 2 гады пазбаўлення волі і 21 мільён штрафу. Яўген Канавальчанка — былы намеснік гендырэктара — 4 гады абмежавання волі без штрафу і накіравання ў папраўчую ўстанову. Мікалай Камароў, былы намеснік гендырэктара па фінансах, атрымаў 3 гады абмежавання волі. Міхаіл Разжывін, гендырэктар расійскай фірмы «Руском-Р», — 4 гады абмежавання волі. Уладзімір Ліяранцэвіч — галоўны спецыяліст па замежнаэканамічных сувязях фабрыкі — адзіны, хто прызнаў віну, прысуджаны да двух гадоў абмежавання волі.

Праўда, і Ганну Шарэйка, і Надзею Семчанкаву вызвалілі ў зале суда — бо два гады яны ўжо правялі ў СІЗА, а таксама трапілі пад амністыю, прысвечаную 70-годдзю Перамогі. Калі суддзя агучваў сваё рашэнне, гэта віталі апладысментамі. Да таго ж амністыя значыць, што з Шарэйка здымаецца судзімасць. Адпаведна, здымаецца і забарона займаць кіруючую пасаду, а гэта значыць, што яна можа вярнуцца ў крэсла дырэктара.

Адразу пачаліся абдымкі, паліліся слёзы. Плакалі ўсе: і сама Шарэйка, і яе сваякі, і супрацоўнікі птушкафабрыкі.

У турме застанецца адзін Вальдэмарас Норкус. Ён не трапіў пад амністыю, але праз месяц, 10 ліпеня, калі скончацца 2 гады, якія ён правёў за кратамі, Норкус выйдзе на волю.

Такая лыжка дзёгцю — не выпусцілі разам з ягонай жанчынай.







### За што сядзела

Па версіі следства, Шарэйка, будучы гендырэктаркай Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі, уступіла ў карупцыйную змову са сваім сужыцелем Вальдэмарасам Норкусам, дырэктарам літоўскай фірмы «Даймас» і заснавальнікам кампаніі «Руском-Р» (ён абвінавачаны ў дапамаганні), праз якую ішлі пастаўкі ў Віцебск камбікармоў і кармавых дабавак.

Па словах пракурора, фірма Норкуса для заяўкі на конкурсе выстаўляла заведама заніжаную цану, але потым яна павялічвалася за кошт транспартных выдаткаў і мытных плацяжоў. У выніку канчатковая цана замежнага камбікорму была значна вышэйшай, чым айчыннага. Дзяржабвінавачанне ацэньвала шкоду ў 4 млрд рублёў.

Шарэйка ўзначальвала Віцебскую птушкафабрыку з 1998 года да свайго затрымання ў жніўні 2014 года 16 гадоў.

На працягу 2006—2014 гадоў чысты прыбытак Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі склаў $90 мільёнаў. У першы ж год пасля арышту дырэктаркі былі зафіксаваныя страты.

### Першыя словы на волі

Адразу пасля вызвалення Ганна Шарэйка расказала журналістам пра свае планы, крыўды і падзялілася меркаваннем, чаму сёння фабрыка перастала быць прыбытковай.

### Пра віну

«Я і па сённяшні дзень не лічу сябе вінаватай. У поўным аб'ёме я не прызнаю аніякай віны. І мне гэты абвінавачвальны прысуд трохі, канечне, засмучальны. Бо я заўсёды працавала ў інтарэсах гэтай фабрыкі, я яе любіла як сваё дзіця, выхадзіла яе, і гэта было самае дарагое, што я мела. Таму я лічу, што справядліва было б не баяцца і вынесці цалкам апраўдальны прысуд».

### Пра крыўды

«Я не хачу нікога асуджаць. Як бы там ні было — я дзяржаўны чалавек. І я разумею тую заклапочанасць дзяржавы, каб усюды быў парадак. І, напэўна, вось навядзенне гэтага парадку — яно і адбылося. Бо хочацца, каб усюды было правільна і парадак. Ну, і разбіраюцца ж усюды. Нашы органы нельга падмануць. Яны ўсё адно правераць дакладна, пад лупай. І ўсё ўбачаць... Абвінавачваць нікога я не магу. Гэтыя памылкі былі зробленыя два гады таму, і іх, напэўна, трэба было прызнаць. Гэта таксама няпроста. Але часткова, напэўна, разабраліся. Трэба радавацца таму, што ёсць. І гэты прысуд — ён такі, што ёсць магчымасць бачыць сваіх родных, бачыць калектыў. Гэта дзве сям'і, якім я прысвяціла ўсё сваё жыццё, таму я ўсё роўна рада. Калектыў жыў два гады з намі, перажываў за нас. Я ведаю, што яны ведаюць і вераць, у іх не было сумневаў, што мы рабілі і вырашалі ўсё правільна».

### Пра першыя дні на волі і планы

«Я прывыкла працаваць усё жыццё. Тое, што я буду працаваць, — гэта не абмяркоўваецца, бо я адчуваю сябе абсалютна нармальна, і фізічна, і маральна. Я нават больш загартавалася тут, адужэла».

### Пра сённяшнія страты на птушкафабрыцы

«Пракаментаваць гэта проста. Сёння эканамічная сітуацыя вельмі складаная ў краіне. Гэта важна. Шмат якія прадпрыемствы адчуваюць сур'ёзныя страты. Гэта першае. А другое — няма чаго грахі таіць, калі пяць чалавек, ключавых спецыялістаў, кіраўніцтва, схапілі, то тыя людзі не могуць, як бы яны ні хацелі, у цяжкай эканамічнай сітуацыі ўзяць тую ношу, што мы неслі гадамі».

### Пра любоў

«Я хачу сказаць, каб людзі не злавалі, бо часам... Тое, што робіць вышэйшае кіраўніцтва — яны імкнуцца паўсюль навесці парадак. І тое, што ёсць памылкі — як за гэта можна абвінавачваць? Памылкі ёсць паўсюль. Таму, я лічу, не трэба злаваць, трэба далей верыць, любіць і працаваць. Я заўсёды кажу, што любоў пераможа. Любоў да ўсяго, да людзей, да блізкіх, да калектыву... Бо без яе нічога няма. Вынік будзе, толькі калі ты любіш. А я люблю, і да гэтага часу люблю. Люблю людзей, люблю жыццё. Люблю сваіх сваякоў. Я проста люблю».

### Пра тое, што Норкуса не вызвалілі

«Гэта адна з засмучальных нотак... Але застаўся месяц. Што ж зробіш! Але ён вельмі моцны чалавек. Чалавек, які справіцца, хоць ён і застаўся адзін, і я разумею, як гэта балюча... І я з ім побач у думках кожную хвіліну. Думаю, хутка мы будзем разам».

**Улад Швядовіч**



# Мусульманін расстраляў гей-клуб у Фларыдзе, загінула 50 чалавек



У выніку нападу на гей-клуб *Pulse* ў горадзе Арланда, што ў штаце Фларыда, загінула 50 чалавек, 53 чалавекі былі шпіталізаваны. Пра гэта паведаміў мэр Арланда.

Нападнік метадычна расстрэльваў наведнікаў аднаго за адным. Урэшце спецназаўцы забілі яго падчас перастрэлкі.

Бойню зладзіў 29-гадовы грамадзянін ЗША Амар Мацін. Яго бацькі — выхадцы з Афганістана.

Мацін валодаў зброяй афіцыйна, бо працаваў ахоўнікам. Перад забойствам ён заявіў пра сваю сувязь з «Ісламскай дзяржавай», аднак амерыканскія спецслужбы не выявілі ніякіх каналаў сувязі яго з тэрарыстычнай арганізацыяй. Пакуль следчыя схіляюцца да высновы, што ён быў адзіночка, які падпаў пад уплыў ідэй ісламістаў.

Мацін быў чалавек дзіўнаваты. Жонка ад яго ўцякла пасля чатырох месяцаў сямейнага жыцця. Крыніцы кажуць, што ён не раз той гей-клуб сам наведваў і напіваўся там да буянства.

Як бы ні было, ён адняў жыццё ў іншых людзей. Мусульмане ЗША адмежаваліся ад яго і рэзка асудзілі. Ягоны тэракт дае карты ў рукі кандыдату ў прэзідэнты ЗША ад Рэспубліканскай партыі Дональду Трампу, які выступае за забарону на ўезд у ЗША мусульманам.

Бацька Маціна, якога зваць Садык, сказаў, што «не можа дараваць сыну тое, што ён нарабіў».

Бойню ў Арланда параўноўваюць з разнёй, учыненай Брэйвікам у Нарвегіі. Толькі што Брэйвіка паліцыя ўзяла жыўцом, а Маціна загінуў у часе штурму.

**Сяргей Гезгала**

# Пуцін абвясціў раптоўную праверку ва Узброеных сілах Расіі

Ва Узброеных сілах Расіі пачалася маштабная праверка, падчас яе будуць правераныя вайсковыя арсеналы і асобныя органы ваеннага кіравання, паведаміў у аўторак міністр абароны Расіі Сяргей Шайгу.



«Для ацэнкі баявой і мабілізацыйнай гатоўнасці з 7 гадзіны раніцы ў адпаведнасці з рашэннем вярхоўнага галоўнакамандуючага Узброенымі сіламі пачата чарговая раптоўная праверка. Падлягаюць праверцы шэраг баз захоўвання ўзбраення і тэхнікі, а таксама асобныя органы ваеннага кіравання», — сказаў Шайгу. Па словах Шайгу, праверка будзе доўжыцца да 22 чэрвеня.

Міністр абароны адзначыў, што войскі неабходна рыхтаваць да выканання задач ва ўзброеных канфліктах рознай інтэнсіўнасці і крызісных сітуацыях. Шайгу дадаў, што таксама трэба звярнуць асаблівую ўвагу на мабілізацыйны складнік узброеных сіл, стан рэзервовых фарміраванняў, запасы ўзбраення і вайсковай тэхнікі, што знаходзіцца на захоўванні.

**rbc.ru**




## Афіцэра ФСБ, які працаваў у аддзеле замежных царкоўных сувязяў Маскоўскага патрыярхата, асудзілі на 12 гадоў за шпіянаж

Супрацоўнік аддзела замежных царкоўных сувязяў Маскоўскага патрыярхата Яўген Петрын прысуджаны да 12 год турмы за дзяржаўную здраду на карысць ЗША.

Прысуд быў вынесены Масгарсудом, справа разглядалася тройкай суддзяў у закрытым рэжыме пад грыфам «сакрэтна».

Абарона Петрына паабяцала абскардзіць прысуд. Дзяржабвінавачанне прасіла для яго 19 гадоў калоніі строгага рэжыму.

Яўгена Петрына затрымалі ў чэрвені 2014 года. Раней у РПЦ заяўлялі, што абвінавачанне на яго адрас звязана з працай у спецслужбах да таго, як ён прыйшоў у аддзел замежных царкоўных сувязяў.

У РПЦ на работу ён перайшоў з ФСБ.

Сваякі Петрына сцвярджалі, што ў РПЦ ён займаўся ўкраінскай тэматыкай.

**СГ**

# Берлусконі зрабілі аперацыю на адкрытым сэрцы



У бальніцу Мілана былы прэм'ер-міністр Італіі Сільвія Берлусконі трапіў на мінулым тыдні. Яму замянілі аартальны клапан. Аперацыя доўжылася каля чатырох гадзін. Аперацыю правёў кардыяхірург Атава Альферы.

Як піша італьянская газета *Corriere della Sera*, 79-гадовы Берлусконі напярэдадні аперацыі сустракаўся са святаром.

**Сяброўка Берлусконі 30-гадовая Франчэска Паскале плача на балконе бальніцы падчас аперацыі. Берлусконі быў афіцыйна жанаты двойчы і прайшоў праз шэраг сэкс-скандалаў.**

## Золатавалютныя рэзервы Кітая аднавілі падзенне, Расіі — стабілізаваліся

Золатавалютныя рэзервы Кітая ў маі скараціліся на тры дзясяткі мільярдаў даляраў. Цяпер яны складаюць 3,19 трлн даляраў ЗША. У сакавіку і красавіку яны раслі. Але агулам іх пік здарыўся ў чэрвені 2014-га. Тады яны дасягнулі 3,99 трыльёна. З таго часу яны скараціліся на 800 мільярдаў. Усё адно яны застаюцца гіганцкімі.

Скарачэнне рэзерваў звязана з вывадам капіталу з Кітая інвестарамі і з вялікімі ўліваннямі сродкаў у эканоміку ўрадам краіны, які спрабуе захаваць высокія тэмпы эканамічнага росту.

Што да Расіі, то па стане на 3 чэрвеня яе золатавалютныя рэзервы складалі 388,9 мільярда даляраў ЗША. Яны застаюцца практычна нязменнымі ад сакавіка 2016. Да найніжэйшага свайго ўзроўню яны апускаліся ўвесну 2015-га — каля 350 мільярдаў даляраў.

Для параўнання, па стане на пачатак чэрвеня золатавалютныя запасы Беларусі складаюць каля 4,6 млрд даляраў. Украіны — 13,5 млрд, Польшчы — 108 млрд.

**СГ**

# Ілан Маск паведаміў аб місіі смяротнікаў на Марс

Бізнэсмен і заснавальнік кампаніі *SpaceX* амерыканец Ілан Маск параўнаў планаваны пачатак каланізацыі Марса з засваеннем Паўночнай Амерыкі англічанамі. Таксама ён распавёў пра першых смяротнікаў гэтай місіі. Пра гэта прадпрымальнік паведаміў у сваім інтэрв'ю выданню *The Washington Post*.

Прадпрымальнік упэўнены, што для асваення Марса знойдуцца ахвотныя, паколькі «гэта ж як і з англійскімі калоніямі, заўсёды ёсць людзі, якія імкнуцца стаць першапраходцамі». Маск адзначыў, што каланізацыя,



напэўна, стане «цяжкай, рызыкоўнай і небяспечнай».

«Гэта небяспечна, і, імаверна, людзі будуць паміраць, — і яны будуць папярэджаны аб гэтым. І тады яны будуць пракладаць шлях і ў канчатковым выніку зробяць бяспечнай дарогу да Марса і знаходжанне на гэтай планеце. Але гэта справа далёкай будучыні», — заявіў бізнэсмен.

Маск назваў мэту адпраўкі чалавека на Чырвоную планету. «Гэта неабходна для архітэктуры, якая дазволіла б стварыць самадастатковы горад на Марсе і выжыць некалькім планетным відам», — сказаў ён.

Бізнэсмен пацвердзіў свой намер адправіць у 2018 годзе да Марса беспілотную місію на караблі *Dragon V2*. Пасля гэтага Маск плануе адпраўляць на Чырвоную планету апараты кожныя 26 месяцаў: дзве місіі ў 2020 годзе, як мінімум адну ў 2022-м і, верагодна, пілатуемую місію праз два гады з дасягненнем Марса ў 2025 годзе. Пускі плануецца ажыццяўляць на ракеце-носьбіце *Falcon Heavy*, якая распрацоўваецца, а старт 2022 года плануецца правесці пры дапамозе *Mars Colonial Transporter*. Першы палёт *Falcon Heavy* прызначаны на восень 2016 года.

Маск з'яўляецца заснавальнікам кампаній *SpaceX* (вырабляе ракеты і касмічныя караблі) і *Tesla Motors* (ствараe электрамабілі), а таксама ініцыяваў праект *Hyperloop* (гібрыднай транспартнай сістэмы з вакуумнага цягніка і маглева). Акрамя таго, ён узяў удзел у стварэнні кампаній *PayPal* (займаецца электроннымі плацяжамі) і *SolarCity* (сонечная энергетыка). Фірма *SpaceX* атрымала кантракт НАСА на дастаўку астранаўтаў да МКС. Да 2025 года бізнэсмен паабяцаў адправіць першага чалавека на Марс.

**lenta.ru**

# У Польшчы мінімальны заробак вырасце да 436 еўра

Гэта ў чатыры разы болей, чым у Беларусі.

Урад Польшчы мае намер у наступным годзе вызначыць мінімальны заробак у краіне на ўзроўні 1920 злотых (каля 436 еўра) без вылічэння падаткаў.

Пра гэта ў панядзелак заявіла міністр сям'і, працы і сацыяльнай палітыкі Эльжбета Рафальска, паведамляе «Радыё Польшча».

У аўторак 14 чэрвеня пытанне павышэння заробку абмеркавалі міністры на пасяджэнні ўрада.

Па словах польскага міністра, прапанова ўрада з'яўляецца кампрамісам паміж чаканнямі прафсаюзаў і працадаўцаў.

У той жа час прафсаюзы і арганізацыі працадаўцаў не прыйшлі да згоды ў гэтым пытанні. Першыя патрабуюць усталяваць мінімальны заробак на ўзроўні 1970 злотых (448 еўра) без вылічэння падаткаў, а другія хочуць павышэння зарплаты да 1862 злотых (426 еўра).

На дадзены момант мінімальны заробак у Польшчы складае 1850 злотых, гэта значыць каля 420 еўра.

Нагадаем, што ў Беларусі мінімальны заробак складае 2 млн 300 тыс. рублёў, што ў пераліку на сённяшні курс раўняецца 102 еўра.

# На БТ выгляд Гуркова з «Пагоняй» і дзяржаўным сцягам назвалі арганічным

13 чэрвеня ў праграме «Форум» на тэлеканале «Беларусь-1» з Дзмітрыем Бачковым высвятлялі, што такое нацыянальная беларуская ідэя і наколькі яна важная ў эпоху глабалізацыі.

У дыскусіі ўзялі ўдзел прадстаўнікі ўладаў і апазіцыі, сярод якіх былі Рыгор Кастусёў, Андрэй Дзмітрыеў, Алег Гайдукевіч, рэктар Акадэміі музыкі Кацярына Дулава, палітолаг Вадзім Баравік, гісторык Ігар Марзалюк, бізнэсмен Аляксандр Кныровіч, дэпутат Дзмітрый Шаўцоў, эканаміст Яраслаў Раманчук і іншыя.

У працэсе «пошуку» нацыянальнай ідэі вядучы Дзмітрый Бачкоў узгадаў спартоўца і музыку Віталя Гуркова: ён быў запрошаны да ўдзелу ў праграме, але не змог прыехаць з-за гастроляў гурту *Brutto*. Вядучы згадаў нядаўнюю гісторыю з Гурковым, калі той перамог на чэмпіянаце свету па муай-тай і выйшаў па медаль у цішотцы з «Пагоняй» і чырвона-зялёным сцягам на плячах.

«І чамусьці гэта выглядала абсалютна арганічна», — заўважае вядучы.

Яго падтрымлівае Кацярына Дулава, рэктар Акадэміі музыкі:

«...Нам каштоўнае абсалютна ўсё, Дзмітрый. «Пагоня» тут, дзяржаўны сцяг тут — гэта ж сведчанне таго, што чалавек вось так цэльна ўспрымае сваю гісторыю».

**Маша Калеснікава, Еўрарадыё**

# Васіль Парфянкоў жэніцца з вайсковай доктаркай з АТА

Пара пазнаёмілася ў зоне АТА на Данбасе два гады таму, калі Васіль прыехаў добраахвотнікам ва Украіну.

Алена — вайсковы тактычны медык, вучыць байцоў, як ратаваць сябе ў выпадку ранення, калі побач няма медыцынскай дапамогі.

Пара кажа, што зарэгіструе шлюб пасля таго, як скончыцца справа Васіля — якраз зараз праходзіць суд, які мае вызначыць пакаранне за пагромы офісаў расейскіх банкаў і фірмаў, якія адбыліся 20 лютага ў Кіеве і ў якіх беларус Васіль Парфянкоў браў актыўны ўдзел.

Суд, які адбыўся 26 красавіка, змяніў меру стрымання для Васіля з хатняга арышту на асабістае абавязанне. Парфянкоў мяркуе, што атрымае некалькі год зняволення ўмоўна:

«У мяне ёсць адвакат і ўся неабходная падтрымка. Чакаю, што суд прысудзіць умоўны тэрмін, і тады мы з Аленай зможам афіцыйна распісацца», — сказаў Васіль Парфянкоў карэспандэнту «Свабоды» падчас жалобнага мітынгу на майдане Незалежнасці ў Кіеве, на які людзі прыйшлі, каб аддаць пашану загінулым у зоне АТА 11 чэрвеня.




Будучая жонка Васіля Парфянкова адзначыла, што вельмі добра ставіцца да беларусаў, і таму моцна ўзрадавалася, калі, пазнаёміўшыся з Васілём два гады таму, даведалася, што той з Беларусі:

«Вядома, цяжка планаваць жыццё ва ўмовах вайны. А мы называем гэта толькі вайной і ніяк інакш. Афіцыйныя ўлады кажуць пра Антытэрарыстычную аперацыю, пра Мінскія дамоўленасці, але насамрэч гэта не што іншае, як лінія фронту і вайна. Учора загінулі шэсць нашых хлопцаў — а ўлады не прызнаюць ахвяраў, бо гэтыя загінулыя былі добраахвотнікамі і нідзе не значыліся афіцыйна. Але ж гэта не адмяняе іх смерцяў... Калі скончыцца вайна? Думаю, не хутка. Вельмі цяжка, тым больш што мы з Васілём абое ваенныя цяпер людзі. Але мы хочам спадзявацца на лепшае».

**Радыё «Свабода»**

# Вялікія змены ў дыпламатычным корпусе: новыя паслы ва Украіне, Бельгіі, Бразіліі, Іране

Змяніліся паслы Беларусі адразу ў сямі краінах.

Найперш звяртае ўвагу, што ў адстаўку адпраўлены дуаен беларускага дыпламатычнага корпусу — Уладзімір Вялічка. 72-гадовы дыпламат узначальваў пасольства Беларусі ва Украіне на працягу апошніх 15 гадоў.

Да гэтага Вялічка адпрацаваў паслом у Латвіі, быў першым намеснікам у МЗС, міністрам па справах СНД (некалі існавала і такая пасада).

Новым паслом ва Украіне стаў кіраўнік апарату Савета міністраў Ігар Сокал. На гэтай пасадзе ён прабыў крышку больш за год. У Сокала быў досвед працы на дыпламатычнай ніве — ад 2008 да 2013 ён быў паслом Беларусі ва Узбекістане.

Першы намеснік Уладзіміра Макея ў МЗС Аляксандр Міхневіч цяпер адпраўляецца на працу ў Брусэль. Ён зойме месца пасла Беларусі ў Бельгіі, Еўрасаюзе, НАТА. Вельмі важныя пасады. Міхневічу 63 гады, ён родам з Мінска. Гэта не першы яго досвед працы паслом, у свой час Міхневіч узначальваў прадстаўніцтва Беларусі ў Вялікабрытаніі і Ірландыі (2006—2012).

Ранейшым паслом Беларусі ў Бельгіі быў Аляксандр Еўдачэнка. Яго якраз і прызначылі першым намеснікам міністра замежных справаў замест Міхневіча.

Вызвалены ад пасады пасла Беларусі ў Бразіліі былы кіраўнік Мінскага аблвыканкама Леанід Крупец. Новага амбасадара нашай краіны ў Лацінскай Амерыцы не ведае нават гугл. Ягонае імя Аляксандр Царкоўскі.

Міністр па мытным супрацоўніцтве Еўразійскай эканамічнай камісіі Уладзімір Гошын прызначаны паслом Беларусі ў В'етнаме.

Дастаткова нечакана, што начальніка ўпраўлення Афрыкі і Блізкага Усходу пры МЗС Беларусі Ігара Ляшчэню прызначылі новым паслом Беларусі ў Славакіі. Мабыць, палічылі, калі ў Ізраілі Ляшчэня спраўляўся, то ў Славакіі па-любому атрымаецца.

Знятая з пасады адна з дзвюх жанчын, што з'яўляюцца пасламі Беларусі за мяжой. Наталля Жылевіч больш не афіцыйны прадстаўнік Беларусі ў Рэспубліцы Карэя, яе змяніў кадравы супрацоўнік МЗС Андрэй Папкоў.

Нарэшце прадстаўніцтва нашай краіны ў Іране ўзначаліў Юрый Лазарчык, ён і раней працаваў у пасольстве ў Тэгеране, толькі быў старшым дарадцам па палітычных і навукова-тэхнічных пытаннях. Цяпер пайшоў на павышэнне.

**Зміцер Панкавец**

# Павел Данэйка: Элітай заўтрашняга грамадства будуць не айцішнікі



Лакальнасць, кастамізацыя, вялікі разрыў паміж нешматлікай элітай і астатнім народам — тое, што характарызуе «цёмную эпоху», і тое, што чакае нас наперадзе. Пра гэта генеральны дырэктар бізнэс-школы ІПМ Павел Данэйка разважаў падчас публічнай лекцыі Лятучага ўніверсітэта і Цэнтра еўрапейскай трансфармацыі ў межах цыкла «Уяўляючы Беларусь: ідэі і вобразы для супольнай будучыні».

Гаворку гендырэктар бізнэс-школы ІПМ пачаў здалёк — з транзакцыйных выдаткаў. Калі патлумачыць гэты тэрмін зусім проста, ён азначае ўсе тыя *«выдаткі, якіх не было ў Рабінзона Круза»*. У героя рамана Дэфо, як вядома, не было людзей.

– Наймаючы людзей на працу, мы павінны заключыць кантракт. Мая мара — каб чалавек шмат працаваў, а я яму нічога не плаціў. Яго мара — каб я яму шмат плаціў, а ён нічога не рабіў. Мы дзесьці згадняваліся пасярэдзіне. Пасля заключэння кантракта яго трэба кантраляваць — гэта выдаткі на пошук інфармацыі, адсочванне сітуацыі, страхавыя ўнёскі.

Ёсць яшчэ і вытворчыя выдаткі, якія складаюцца з энергетычнай і вытворчай сістэм. Яны таксама характарызуюцца лакальнасцю і глабальнасцю. Пры сярэднявечным феадалізме ўсё неабходнае для жыцця выраблялася на месцы, міжнародны гандаль складаўся ў асноўным з прадметаў раскошы. Аснову энергетыкі пры феадалізме складалі млыны, дровы — яна была таксама лакальнай і, як модна казаць сёння, «зялёнай». Да глабалізацыі ў гэтай сферы прывёў ужо капіталізм.

Але вернемся да транзакцыйных выдаткаў. Развіццё інтэрнэту значна паспрыяла іх зніжэнню.

## Як толькі ў нас узнікне рай, мы проста вымрам

І гэта, на думку Паўла Данэйкі, вядзе да таго, што ўсё патаннее, усе вытворцы будуць абслугоўваць персанальна вас і рэзка ўзрасце бяспека. Магчымасць аб'ядноўвацца ў суполкі і рабіць сумесныя пакупкі, а таксама крауд-эканоміка спрыяюць зніжэнню цэн. А вось дыстрыб'юцыя пампэ ці трансфармуецца ў нешта іншае. Сучасная сітуацыя вымагае адмаўляцца ад пасярэднікаў паміж вытворцам і спажыўцом.

– Мяне заўсёды цікавілі сацыя-біялагічныя эксперыменты. Адным з піянераў гэтай справы быў Ілля Прыгожын, нобелеўскі лаўрэат па тэрмадынаміцы і рэктар Брусэльскага ўніверсітэта. Ён вывучаў калектыўных насякомых, у прыватнасці мурашоў. І звярнуў увагу, што сярод рабочых мурашоў ёсць лайдакі і працавітыя. Іх пэўным чынам пазначылі і падзялілі мурашнік на дзве часткі. І ў той жа прапорцыі ў кожнай з частак вылучылася група працавітых і лянівых мурашоў. Соцыум устойлівы, калі мае розныя ролі, — падсумоўвае выступоўца.

На яго думку, ёсць жорсткія правілы існавання соцыума, і ідэя Бога і д'ябла адлюстроўвае разуменне нашымі продкамі таго, што гэтыя правілы існуюць. Барацьба за лідарства і выжыванне застанецца і ў будучыні.

– Як толькі ў нас узнікне рай, мы проста вымрам, — перакананы Павел Данэйка.

З вобласці пакуль, здаецца, фантастыкі, але хто ведае? Ужо ў нашым стагоддзі большая частка насельніцтва будзе жыць да 100 (а то і 200) гадоў. Праўда, ніякая пенсійная сістэма не вытрымае такога доўгажыхарства.

Ну і якія размовы пра будучыню без згадвання славутых 3D-прынтараў? Па словах лектара, ужо праз 5—10 год гэтыя прылады будуць звыклай з'явай для нас. Фабрыка ствараецца для вытворчасці аднаго прадукта, а 3D-прынтар дазваляе выпускаць абсалютна розную прадукцыю з аднаго матэрыялу.

– Узгадайце інтэрнэт 1995 года. Была тэхналогія, але мы яшчэ не ўмелі яе выкарыстоўваць. Патрэбны час, каб адаптавацца і пераўтварыць яе ў працоўную. Аўтар аднаго з артыкулаў сказаў, што 3D-прынтар сёння — гэта як інтэрнэт у 95-м годзе.

Напрыканцы сустрэчы Павел Данэйка паразважаў над тым, хто стане новай элітай у будучыні. На яго думку, гэта будуць цікаўныя людзі, якім хочацца працаваць з інфармацыяй.

– Гэта не айцішнікі. У маім разуменні гэтай элітай стануць тыя, хто будзе працаваць нават тады, калі для матэрыяльнага забеспячэння працаваць не трэба.

**Яўгенія Бурштын, ЕўраБеларусь**

# Цяжкія выбары Радзімы

На Еўра **брат гуляў супраць брата**.

Таўлант і Граніт Джака выйшлі адзін супраць другога ў майках розных нацыянальных зборных. Старэйшы з братоў — Таўлант — нарадзіўся ў 1991 годзе ў югаслаўскай Прышціне. Ягоны брат Граніт праз паўтара года — ужо ў швейцарскім Базэлі.

Менавіта ў гэтым горадзе футбалісты сталі спасцігаць азы футбола. Гулялі ў аднайменным клубе. Пасля малодшы пайшоў на павышэнне: спачатку у Германію, пасля — у Англію. Таўлант так і застаўся ў «Базэлі», за які з невялікімі перапынкамі выступае ўжо 8 гадоў.

Граніт дачакаўся выкліку ў нацыянальную зборную сваёй радзімы — Швейцарыі, Таўлант — не. У 2014 годзе старэйшы з братоў прымае рашэнне выступаць за радзіму гістарычную — Албанію. Так выпала, што ў першым матчы на Еўра-2016 якраз і сышліся Швейцарыя і Албанія.

«Брат, ты і я заўсёды ўсё рабілі разам, незалежна ад таго, што менавіта. Заўтра будзе першы раз, калі мы сутыкаемся на полі ў якасці супернікаў, і, я спадзяюся, гэта будзе першы і апошні раз. Я спадзяюся, што мы пакажам свету, што, нягледзячы на тое, што 90 хвілін мы будзем супернікамі, мы будзем стаяць разам, як толькі браты могуць гэта рабіць. Футбольны матч ніколі не стане ні паміж нашым сяброўствам, ні паміж нашым братэрствам. Зычу табе здароўя і ўдачы ў матчы. Ты заўсёды будзеш маім узорам для пераймання», — напісаў Граніт Джака ў інстаграме напярэдадні гульні.

Браты Джака прызнаюцца, што больш за палову заробкаў аддаюць бацькам, бо самі не ўмеюць размяркоўваць грошы.

Маці братоў была на гульні ў арыгінальнай майцы, якая злучыла сцягі Албаніі і Швейцарыі. Апроч Граніта Джакі, за нацыянальную зборную Швейцарыі выступае яшчэ паўтузіна этнічных албанцаў, якія прызналі ў альпійскай краіне сваю радзіму.

Але ёсць і прыклады албанцаў, якія вярнуліся на гістарычную радзіму. Эльсід Хюсай правёў у Албаніі толькі два першыя месяцы жыцця, пасля жыў у Італіі. Ларык Цана — адзін з найбольш вядомых албанскіх футбалістаў, таксама гадаваўся ў Швейцарыі і па сваім майстэрстве лёгка мог выступаць за гэтую зборную, аднак абраў Албанію. У албанцаў паўскладу — тых, хто гадаваўся і рос у розных еўрапейскіх краінах.



Такую фотку змясціў у сваім інстаграме Граніт Джака.



Маці братоў Джака адзела майку, якая аб'ядноўвае сцягі Албаніі і Швейцарыі.

Для Еўра прыклад братоў Джака ўнікальны, а вось на мінулым чэмпіянаце свету брат супраць брата ўжо выходзіў. Гэта Жэром і Кевін-Прынс Баатэнгі. Першы прадстаўляе Германію, другі — Гану.

Зборную Нямеччыны яшчэ часта называюць «маленькай Турцыяй», але гэта зусім няпраўда. За Нямеччыну сёлета гуляе толькі двое туркаў — Месут Азіл і Эмрэ Джан. У той час як за зборную Турцыі выступае аж шасцёра футбалістаў, якія нарадзіліся і вучыліся футболу ў Нямеччыне. Некаторыя крытыкуюць такі выбар. Маўляў, Нямеччына ўкладвала ў ваша развіццё грошы, а не хочаце ёй аддзячыць. Іншыя ж, наадварот, лічаць, што гэта вельмі годна — адстойваць радзіму сваіх продкаў. І, мабыць, універсальнага адказу на такія пытанні не існуе.

Такіх «інтэрнацыянальных» зборных на гэтым Еўра некалькі. Ужо згаданыя немцы і швейцарцы, Францыя са сваімі выхадцамі з Афрыкі (дарэчы, калі сабраць усіх кангалезцаў, што выступаюць у Еўропе, то атрымалася б вельмі дужая каманда), Бельгія, Швецыя. За Аўстрыю гуляе ўся былая Аўстра-Венгерская Імперыя — венгры, харваты, баснійцы, сербы.

А вось каманды Італіі і Іспаніі ўсё яшчэ застаюцца выключна «нацыянальнымі». Хваля мігрантаў закранула гэтыя краіны значна пазней, але варта чакаць, што ў будучыні іх склады таксама будуць трансфармавацца.

**Зміцер Панкавец**




# Рускія і англічане ледзь не разнеслі Марсэль

УЕФА прыняло рашэнне **ўмоўна дыскваліфікаваць** зборную Расіі.

Побыт англійскіх футбольных хуліганаў у Еўропе выдатна апісаў брытанскі пісьменнік Джон Кінг у кнізе «Англія на выездзе». Алкаголь, прадажнае каханне, бойкі — гэта неад'емны атрыбут англічан на выправе.

У самой Англіі з хуліганствам на стадыёнах ваюющь жорстка. Можна сказаць, што Англія першай у Еўропе выкараніла ў сябе такую з'яву, як футбольныя хуліганы, хоць у свой час была завадатарам моды. Самыя жорсткія з фанатаў нават не маюць права наведваць матчы зборнай за мяжой. Існуе такі спіс з паўтысячай асоб.

Суровыя рускія фанаты таксама не адрозніваюцца лаяльнасцю і цярпімасцю да іншых. Але ў нашай усходняй суседцы такой сістэмнай барацьбы з гвалтам на трыбунах ніхто не вядзе. Можна сказаць, што 11 чэрвеня ў Марсэлі каса найшла на камень.

Бойкі пачаліся яшчэ задоўга да матча, накачаныя алкаголем фанаты абедзвюх краін не шукалі паміж сабой кампрамісаў, а кідаліся на амбразуру. Трапляла і зусім не хуліганам, асабліва англічанам.

Паліцыі давялося прымяняць слезацечны газ, у адказ паліцыю закідвалі камянямі.

Сутычкі працягнуліся ўжо на стадыёне, калі ашалелыя ад радасці расійскія фанаты (іх каманда вырвала нічыю ў кампенсаваны час) кінуліся на сектары з англічанамі. Англічане не збіраліся ўжо махаць кулакамі, таму многія былі вымушаныя ўцякаць. І няшчасныя тыя, хто трапляў рускім хуліганам пад руку.

У выніку бясчынстваў УЕФА прыняло рашэнне ўмоўна дыскваліфікаваць зборную Расіі. Калі бойкі працягнуцца, то можа адбыцца і дыскваліфікацыя сапраўдная. Некалькі найбольш шалёных рускіх хуліганаў вырашана дэпартаваць з Францыі.

**ЗП**




# Тры зоркі першага тура Еўра



### Эмануэле Джакерыні (Італія)

Сорамна каму сказаць, але цяперашняя зборная Італіі не мае сусветных зорак першай велічыні, апроч брамніка Буфона. Увесь склад роўны, гэта такія працавітыя хлопцы, якія ўсю кар'еру былі ў цені, а цяпер вымушаныя выходзіць на першы план. Эмануэле Джакерыні якраз з такіх. Яму ўжо 31 год, а гуляе за непрыкметную «Балонью». Але Джакерыні ўпарты і вынослівы, як сама зборная Італіі. Яго першы гол прынёс перамогу «скуадры адзуры» над піжоністымі бельгійцамі. Тыя, хоць і былі фаварытамі, але запомніліся толькі экзатычнымі фрызурамі. Рабацягі кшталту Джакерыні даюць Італіі надзею на гэтым Еўра.

### Аркадыуш Мілік (Польшча)

Ёсць такая традыцыя, што кожныя 12 гадоў Еўра выйграе каманда-андэрдог. У 1992 годзе — гэта былі датчане, у 2004 — грэкі. Чаму ў 2016 сенсацыяй не стаць Польшчы? У гэтай каманды ёсць добры склад, думаючы трэнер, пэўны досвед. Палякі цалкам дамінавалі ў гульні з Паўночнай Ірландыяй, якая, здаецца, проста радая, што трапіла на гэтае свята. Пераможны гол на рахунку 22-гадовага ўраджэнца горада Тыхы Аркадыуша Міліка. У палякаў ёсць каму перахапіць ініцыятыву, калі супернікі бяруць у абцугі Левандоўскага. Цяпер палякаў чакаюць больш цяжкія выпрабаванні ў форме Нямеччыны і Украіны.





### Лука Модрыч (Харватыя)

Існуе такі выраз: пакажы, хто ў цябе ў паўабароне, і я скажу, ці моцная ў цябе каманда. У зборнай Харватыі ў паўабароне гуляюць прадстаўнікі «Рэала» і «Барселоны». Лука Модрыч з «Рэала» прынёс перамогу сваёй камандзе ў сустрэчы з Турцыяй. Як ва ўсіх балканскіх дзяцей таго часу, у Модрыча было няпростае дзяцінства. Сям'я ўцякала ад вайны з роднага Задара, у войску служыў бацька Лукі, на вайне загінуў дзед. Калі Сціпе Модрыч вярнуўся да цывільнага жыцця, то ён не шкадаваў грошай на сына. У 16 гадоў Лука дэбютаваў у харвацкім грандзе «Дынама» з Заграба. Зорка Модрыча ўзышла ў «Тотэнхэме», а цяпер без яго цяжка ўявіць «Рэал».

**ЗП**

Беларускі журналіст шукае 19-гадовага сына ва Украіне. **Бацькоўская драма** Змітра Галко.

# Сын сказаў: «Я памру ў гурбе снегу»

Не першы месяц журналіст і блогер Зміцер Галко спрабуе расшукаць сына, які знік у лютым ва Украіне. У гранічна шчырай размове Галко расказвае пра свой і сынаў лёс.

**«Наша Ніва»: Зміцер, табе 36 гадоў. Як сталася, што ў цябе ўжо такі дарослы сын?**

**Зміцер Галко:** Калі мне было 14 гадоў, я ляжаў у бальніцы, правяраў сэрца, і закахаўся там у адну санітарачку. Яна была крыху старэйшая за мяне — ёй было 18. Расказвала розныя страшныя байкі пра шпіталь. Накшталт таго, як нейкаму дзіцяці трэба было рабіць тэрміновую аперацыю, а хірургі напіліся, і дзіця загінула. За ёй усе хлопчыкі з аддзялення чарадой хадзілі. Калі мне было 15, мы пачалі сустракацца.

Праз гэтае каханне і з'явіўся наш Андрэй. Пасля я зразумеў, што гэта вельмі зарана і я зрабіў памылку, але бацькі сказалі мне, што хутчэй ты пойдзеш з дому, чым шлюбу не будзе. Таму адбыўся шлюб, адбыўся — сын.

Сапраўднае каханне я сустрэў ужо праз год пасля гэтага, калі пайшоў вучыцца ва ўніверсітэт. Гэтае каханне было складаным, тры гады мы не маглі жыць разам, бо ў мяне была сям'я, у яе была сям'я. Гэтыя тры гады былі такім працяглым мядовым, але вельмі горкім месяцам. Болып пакутаў было, чым радасці... Хаця і радасці было шмат.

Праз гэта ўсё дзіця было адсунутае на другі план. Першыя гады Андрэя прайшлі без бацькі ўвогуле. Ён выхоўваўся ў вельмі розных па культурным узроўні сем'ях. У адной сям'і казалі, што другая сям'я паганая. У другой гаварылі наадварот. Вось якая карціна свету магла скласціся ў яго ў галаве? Яна проста разбурылася. Ён не разумеў, што такое «нармальна», з каго браць прыклад.

**«НН»: Як адбываліся вашы кантакты ў час дзяцінства Андрэя?**

**ЗГ:** Пасля таго, як у мяне больш-менш усталявалася жыццё, я пачаў яго пастаянна браць да сябе. Праўда, толькі ўлетку, на месяц-другі. Ездзілі на поўнач, да Белага мора, па краіне нашай вандравалі. Для выхавання гэтага недастаткова. І бачыў ён мяне толькі ў адпачынку, а не за працай. Бацька адпачываў. Як адпачываў? Як усе, і выпіваў часам. Ён не мог узяць з мяне добрага прыкладу.

**«НН»: Якім ён хлопчыкам рос?**

**ЗГ:** Андрэй зусім не быў хуліганам. Хутчэй, хатні хлопчык, які сядзеў дома як сыч. Ніхто не бачыў, каб ён піў ці курыў. Кампаніі ў яго не было, за кампам сядзеў, чытаў, нідзе не бадзяўся. Ён быў вельмі кепска сацыялізаваны — вось у чым праблема. Калі пасля школы яму давялося пайсці ў ПТВ (дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва), то пачаліся сур'ёзныя праблемы. І не праз вучобу, а праз стасункі з людзьмі. Ён пачаў зрываць, не хадзіць на заняткі. У рэшце рэшт ён кінуў вучобу.

Андрэй у выніку пайшоў працаваць на лесапілку ў Стаўбцоўскім раёне. А там які кантынгент? Бухаюць пастаянна. Сын дарваўся на лесапілцы да бутэлькі. Гэта было якраз у той перыяд, калі я паехаў упершыню асвятляць падзеі на Данбасе [летам 2014].

**«НН»: Чым ты тлумачыш такую змену ў паводзінах?**



Зміцер Галко з сынам Андрэем у Марыупалі.

**Зміцер Галко**

Нар. у 1979 годзе ў Мінску. Журналіст. Працаваў на радыё «Свабода», у «Народнай волі», апошнія тры гады працуе ў газеце «Новы час». За рэпартажы з данбаскага фронту атрымаў у 2015 тры грамадскія прэміі. Цяпер спрабуе сябе ў якасці пісьменніка, пішучы часткова аўтабіяграфічны раман «Каханне і свабода». Жыве ў Марыупалі.

**ЗГ:** Цяжка сказаць, што было галоўнай прычынай такой цягі. Мабыць, гэта здымала з яго комплексы, ён сам пра тое казаў. Калі вып'е, то жыць нястрашна, нават радасць нейкая з'яўлялася. Бутэлька замяніла яму любоў, бацьку, маці, усе радасці жыцця.

Ён жыў у вёсцы ў маіх бацькоў. Яны мне пішуць, што з Андрэем адбываюцца страшныя рэчы, пытаюцца, што рабіць. Сітуацыя дайшла да ручкі, пачаліся пастаянныя прывады ў міліцыю, іх за паўгода набралася мо дваццаць.

Андрэй у хуткім часе пераехаў да маці з бабкай у Мінск, жылі на «Розачцы». У адзін дзень сын спаліў ім хату. Я не ведаю, ці выпадкова гэта было, ці не. Добра, што сусед ўратаваў яго. Выцягнуў з агню, калі той спаў п'яны. Згарэў цэлы пакой і балкон.

**«НН»: І як на гэта рэагавалі?**

**ЗГ:** Маці з бабкай хацелі завесці крымінальную справу на сына, бо «закалябаў» ужо, я адмовіўся ад такога варыянту. Сказаў, што бяру яго на сябе. Андрэй ляжаў у рэанімацыі таксікалогіі, збег адтуль, трапіў у псіхіятрычную лякарню, нічога яму не дапамаглі. Нейкая бессэнсоўная ўстанова, папраўдзе.

Пасля падпалу я ўзяў яго да сябе. Што значыць да сябе? Я ж не адзін жыву. У мяне сям'я: мой сын (13 гадоў), жонка, сын жонкі. У сына жонкі была вельмі складаная праца, ён толькі пачынаў праграмаваць, яму патрэбен быў спакой. Андрэй пачаў уцягваць меншага майго сына, падбіваў грошы скрасці. Я ж думаў, што ўсё вырашыцца проста, ледзь не ў адзін момант, калі ў яго будзе бацька, сям'я. А выйшла зусім наадварот. Ён выкарыстоўваў нашу кватэру як нейкую кармавую базу, пастаянныя п'янкі, крадзяжы.

Ночы не спім, чакаем яго, шукаем. Дайшло да таго, што ў жонкі пачалася вельмі моцная нервовая хвароба. Шмат хто мне казаў, каб аддаў яго ў ЛПП. Я вырашыў, што даросламу чалавеку ЛПП можа дапамагчы, а маладому несацыялізаванаму — гэта смерць. Ён выйдзе адтуль сфарміраваным маргіналам. Гэта, фактычна, турэмная ўстанова, дзе 24 гадзіны ў суткі маеш кантакт толькі з алканаўтамі і мянтамі.

**«НН»: Тады і вырашылі паехаць з сынам ва Украіну?**

**ЗГ:** У Андрэя назапасілася столькі прывадаў у міліцыю, што супраць яго пачалі справу, звазілі на камісію. На дзень нараджэння яго маці ён павінен быў ехаць у ЛПП.

Я прапанаваў яму падаваць апеляцыю, толькі абяцай, што не будзеш піць. На жаль, у яго адбыўся нервовы зрыў і ён сарваў усю апеляцыю. Там напіўся, тут напіўся, доўга расказваць, як гэта было. У апошні момант ён кажа: «Бацька, ратуй мяне, я загіну ў гэтым ЛПП, я адтуль не вярнуся, хачу паехаць з табой ва Украіну». А ў мяне нават планаў не было зноў ехаць ва Украіну.

Я падумаў: можна паехаць на два тыдні, калі ён не будзе піць, то зробім кадзіроўку там. У Мінску ён ад гэтага катэгарычна адмаўляўся. Я хацеў завезці яго на фронт, на базу да знаёмых — месца, дзе строга забаронена ўжываць алкаголь. Я думаў, што гэта можа дапамагчы, будзе ўстраска, змена дэкарацый.

Да фронту мы нават не даехалі. Ён не пераставаў піць: п'е і п'е. Што рабіць, я ўвогуле не разумеў. Я сяджу ў Кіеве, думаю, вяртацца — гэта аўтаматам ЛПП для яго, а ва Украіне ў мяне няма ні жылля, ні працы.

**«НН»: І як выйшлі з гэтай сітуацыі?**

**ЗГ:** Тут трапіўся адзін святар знаёмы, які кажа: «А з'ездзіце ў рэабілітацыйны цэнтр у Жытомірскай вобласці». Сын нечакана згадзіўся, хоць там нельга ні піць, ні курыць, ні лаяцца, а трэба шмат працаваць фізічна. Андрэя прынялі туды, хоць і не хацелі, бо казалі, што ў яго нейкія псіхічныя адхіленні. Фактычна на першы ці другі дзень ён уцёк з цэнтра, аднак я пераканаў вярнуцца. У рэабілітацыйным цэнтры, насуперак іх правілам, Андрэя ўзялі паўторна. У выніку ён прабыў там два месяцы. І паўплывала на сына гэта вельмі добра. Ён глядзеў на мяне чыстымі вачыма, я забраў яго да сябе. Мы жылі з ім у Марыупалі ў прыватным доме, быў месяц абсалютна цвярозага жыцця, ён фарбаваў, сек, пілаваў. Рабіў усё, што прасілі.

Я забраў малодшага сына Яна-Хрысціяна туды, бо падумаў, што Андрэю трэба добрая кампанія. Аднак замест таго, каб зрабіць лепш, зрабіў толькі горш. Андрэй зноў пачаў падбіваць малога.

Андрэя на пляжы прадаваў піражкі, з'явіліся грошы, прадаваў больш за іншых. Раз выпіў, другі, трэці... Ён згубіў пашпарт, давялося вяртацца ў Беларусь, неяк праскочыў мяжу, ніхто яго не арыштаваў.

**«НН»: А як зноў аказаўся ва Украіне?**

**ЗГ:** Захацеў вярнуцца, я прыняў яго зноў. Мы дамовіліся: калі ты скрадзеш грошы, то паедзеш назад. Бо так жыць нельга. Нягледзячы на нашу дамову, ён скраў. Ладна, я прапанаваў: давай яшчэ раз паспрабуем рэабілітацыйны цэнтр. Ты сам туды ідзеш і мінімум месяц жывеш. Ён тыдзень бадзяўся ў Кіеве, аднак даехаў у рэабцэнтр — брудны, без грошай, тэлефона.

Калі прайшоў месяц, то я якраз захварэў на пнеўманію. Яму здавалася, што гэта хлусня, што я яго не забяру, што яго кінулі, падставілі. Я тлумачыў: не хвалюйся, прыеду, забяру, усё будзе добра, а цяпер я проста не ў стане. Ідзе ўжо трэці месяц, ён не верыць мне зусім. Кажу, пачакай вясны, будзе цёпла. Яму было цяжка ў калектыве, але трымаўся, прытрымліваўся правіл, не піў.

Быў момант, калі я мог да яго прыехаць, але кіраўнік цэнтра вельмі прасіў: не прыязджайце, вы ўсё сапсуеце. А трэба было ехаць, каб ён бачыў, што бацька побач.

У адзін момант Андрэй сказаў, што дачакаецца вясны, а потым — оп — тэлефануе: я не магу больш тут знаходзіцца, я нагаварыў тут усім паскудстваў, я сыходжу. «Андрэй, дзе я буду цябе шукаць, калі ты зараз сыдзеш», — кажу яму...

У ноч на 4 лютага ён паехаў у Кіеў. Мы размаўлялі з ім тады 2—3 гадзіны, вельмі доўга, я абяцаў, упрошваў. Ён мне кажа: «Я пайду і памру ў гурбе снегу». З такімі словамі ён знік, яго няма ўжо пяты месяц, ніхто пра яго не чуў.

**«НН»: І з таго часу ніякіх вестак?**

**ЗГ:** Я спадзяваўся, што ён усё ж аб'явіцца, калі зразумеў, што не — падаў заяву ў паліцыю. Я шукаў Андрэя па Кіеве, замаўляў абвесткі, раздаваў інфармацыйныя матэрыялы бамжам, гандлярам, у метро раздаваў.

Пачаліся нейкія званкі. І ад нармальных людзей, і ад махляроў. Адзін хрысціянін, які корміць бамжоў на вакзале, казаў, што, магчыма, бачыў сына. Ён прасіў больш абвестак, каб распаўсюджваць. Тэлефанавала жанчына, якая нібыта бачыла Андрэя ў псіхіятрычнай лякарні ў Кіеве. Я з'ездзіў туды, у мяне няма пэўнасці, што сына там няма ці не было.

А трэці званок быў ад махляра. Чалавек кажа, што ён з рэабілітацыйнага цэнтра, цяпер ён у прыёмніку-размеркавальніку, бо быў без дакументаў, у нас ёсць валанцёры, якія могуць прывезці ў Марыупаль. Кажу: куды перавесці грошы? Мне гэты чалавек яшчэ кажа: «А калі б я раптам быў махляр, а вы так адразу». Я, натуральна, адразу ўпэўніўся, што ніякі гэта не махляр. Дае мне нумар рахунку. Але нешта дзёрнула мянеператэлефанаваць у гэты рэабілітацыйны цэнтр, а там мне кажуць, што нічога такога не чулі. Капец! Гэта самае страшнае з таго, што адбылося, бо я быў упэўнены, што знайшоў яго.

Дасюль Андрэя няма, ва ўсіх бяздомных на Хрышчацiку я распытваў пра сына, ніхто не чуў. Трэба неяк прабіцца на тэлебачанне, замовіць вялікую партыю ўлётак. У Беларусь ён не вяртаўся, прынамсі, у Памежнага камітэта інфармацыі няма.

Цяпер мне найперш трэба дапамога па распаўсюдзе інфармацыі. Усе іншыя варыянты, апроч таго, што ён у Кіеве, я разглядаю як фантастычныя. Я вельмі спадзяюся, што ён не загінуў, наўрад ці б такое магло прайсці без фіксацыі.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**Калі ў Вас ёсць магчымасць дапамагчы Змітру ў пошуках сына, звяртайцеся на ўкраінскія нумары 0730458956 (Life), 0687612676 (Кіеўстар).**

# Трайное забойства ў ціхіх Солах

Забілі траіх раней судзімых.

Толькі адзін чалавек цудам застаўся жывы. Двое мужчын і жанчына зарэзаныя. У злачынстве падазраюць 33-гадовага мясцовага жыхара, раней не судзімага. Прычынай называюць рэўнасць.

12 чэрвеня прыблізна а другой гадзіне ночы ў дзяжурную частку міліцыі патэлефанавала 38-гадовая жыхарка вёскі Солы Смаргонскага раёна, вядомай сваім касцёлам з унікальнымі фрэскамі па матывах польска-бальшавіцкай вайны 1920 года.

Жанчына паведаміла, што яе 33-гадовы муж у доме суседзяў забіў нажом трох чалавек, а саму яе парэзаў.

У доме сапраўды знайшлі целы трох раней судзімых мясцовых жыхароў: 35-гадовага мужчыну, яго 62-гадовага бацьку і ягоную 47-гадовую сужыцельку.

Жанчыну, якая паведаміла пра здарэнне, паклалі ў бальніцу з рэзанымі ранамі рук і ног. Пагрозы яе жыццю няма.

Падазраванага затрымалі ва ўласным доме, п'яным.

Прыраўнаваў ён да свайго амаль што аднагодкі, а вось старэйшую пару забіў як сведкаў разні. Знойдзена і прылада злачынства — нож, гаворыцца ў паведамленні Следчага камітэта.

Солы — гэта мястэчка на чыгунцы Мінск—Вільня блізка Астраўца.

За забойства ў Беларусі пагражае пажыццёвае зняволенне або нават расстрэл.

**Уладзіслаў Швядовіч**



## Маці-забойца атрымала 10 гадоў

10 гадоў і 6 месяцаў: вынесены прысуд жанчыне, якая 12 гадоў таму выкінула сына ў сметніцу. Абвінавачаная выслухала прысуд, адвярнуўшыся да сцяны.

— Судовая калегія па крымінальных справах Брэсцкага абласнога суда пастанавіла: прызнаць вінаватай у забойстве заведама малалетняга, які знаходзіўся ў бездапаможным стане, і прызначыць пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 10 гадоў у калоніі агульнага рэжыму, — агучыла прысуд суддзя Святлана Крамянеўская.

Суд прыняў да ўвагі частковае адбыццё пакарання за мінулае злачынства — прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў сужыцелю, за якія жанчыну судзілі ў 2015 годзе. З улікам гэтага канчатковы тэрмін зняволення склаў 10 гадоў і 6 месяцаў.

Таксама суд пастанавіў спагнаць з абвінавачванай 2,9 млн за экспертызы і больш за 4 млн за паслугі адваката.

Абвінавачаная выслухала прысуд, адвярнуўшыся да сцяны. Пасля таго як суддзі пакінулі залу судовых пасяджэнняў, да жанчыны падышла адвакатка, каб абмеркаваць абскарджанне прысуду. Тая пачала крычаць:

— Я не хачу, нічога мне ўжо не трэба!

За зачыненымі дзвярыма залы суда яна доўга крычала і абуралася тым, што на абвяшчэнні прысуду прысутнічала прэса.

Прысуд не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаны.

Злачынства жанчына здзейсніла 12 гадоў таму. Крымінальную справу распачалі пасля таго, як 15 кастрычніка 2004 года ў смеццевым кантэйнеры выявілі цела нованароджанага хлопчыка. Праведзеная судмедэкспертыза паказала на гвалтоўны характар смерці малога.

Падазраваную ў забойстве затрымалі ў студзені 2016 года. Жанчына трапіла ў поле зроку супрацоўнікаў міліцыі, калі праходзіла па справе аб наўмысным прычыненні цяжкіх цялесных пашкоджанняў свайму сужыцелю. Генатыпаскапічная экспертыза пацвердзіла: знойдзенага 12 гадоў таму малога нарадзіла менавіта яна.

У судзе абвінавачаная паведаміла, што хавала цяжарнасць ад родных, а ў медустанову не звярталася. Па словах жанчыны, яна баялася, што яе «мог асудзіць» родны бацька. Справа ў тым, што ў 1999 годзе ў падсуднай нарадзілася пазашлюбная дачка. Бацька жанчыны тады негатыўна адрэагаваў на нараджэнне ўнучкі.

На момант другіх родаў жанчына жыла са сваёй старэйшай сястрой у пакоі брэсцкага інтэрната №3. Па версіі абвінавачвання, ноччу 15 кастрычніка ў прыбіральні ў жанчыны нарадзіўся здаровы хлопчык. Затым яна закрыла дзіцяці далонню нос і рот, загарнула цела ў майку і схавала ў дарожную сумку. Пазней Марыя выйшла на вуліцу і кінула труп немаўляці ў найбліжэйшы смеццевы бак. Гэтыя дзеянні ў судзе яна патлумачыла спалохам.

**Інф. tut.by, kp.by**

## У Гомелі лось выгнаў людзей з двара і паўночы бушаваў

У нядзелю ўвечары гамяльчанка Святлана палівала садок каля дома на вуліцы Нагорнай. Побач гуляў 10-гадовы сын Уладзік, у калысцы спала двухгадовая Жэня. Нядзельную ідылію парушыў раптоўны грукат — у двор ускочыў велізарны лось.

— У яго ногі — метры два, таму ён не скакаў, проста пераступіў суседскі двухметровы плот з металапрофіляў і пайшоў на Свету і дзяцей. Сястра дачку з калыскі схапіла, і яны выбеглі за брамку, — распавядае Наталля, сястра Святланы. Яна з сям'ёй прыбегла на Нагорную адразу пасля здарэння.

Спалоханы лось то заміраў, то кідаўся па двары. На крык жанчыны сабраліся суседзі, пачалі тэлефанаваць у розныя службы. Але ўсюды атрымлівалі адмову.

— У МНС нам сказалі, што ў іх няма дроцікаў, у «Спецкамунтрансе» — што не маюць права адстрэльваць жывёл у прыватным сектары, ноччу прыехалі паляўнічыя, пахадзілі-паглядзелі, прапанавалі пачакаць да раніцы і з'ехалі, — кажа Наталля.

А лось усё бушаваў: граміў двор, таптаў грады, залез у куратнік, біўся галавой у акно аднаго з пакояў.

— А мы ўжо забегшы ў дом былі. І было вельмі страшна бачыць яго морду ў акне, — успамінае жанчына. — Рогі ў яго былі абламаныя, з іх увесь час адвальваліся нейкія крывавыя шматкі, з рота ішла пена. Можа, яго смажыла, а можа, шалёны. У вачах чыталася: «Пакажыце, дзе выхад, і я пайду». А як яму пакажаш? Муж выйшаў, каб яму хлеба прапанаваць, дык у яго поўсць — дыбам, капытом б'е, муж нават дадому не паспеў вярнуцца, у хляве зачыніўся. Потым сяк-так у дом перабег.

У страху і без сну абедзве сям'і правялі ўсю ноч. Каля пяці раніцы лось сышоў. Куды — ніхто не ведае.

— Дзіўна, што ні адна служба не адрэагавала. Ніколі яшчэ мы не адчувалі сябе такімі безабароннымі, — рэзюмуе Наталля.

**Tut.by**

## Работніка Беларускай федэрацыі футбола ўзялі за хабар

Міліцыя пацвердзіла факт затрымання.

Супрацоўнікі ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі сумесна з аддзелам БЭЗ Маскоўскага РУУС Мінска па падазрэнні ў атрыманні хабару затрымалі дырэктара дэпартамента суддзейства і інспектавання Беларускай федэрацыі футбола Андрэя Жукава.

Ён быў затрыманы ў сваім працоўным кабінеце. У дачыненні да яго распачата крымінальная справа па ч.1 арт.430 КК Беларусі (атрыманне хабару).

Затрыманы знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання.

## Смяротная аварыя на вуліцы Ванцэці



У Бабруйску «Шкода» насмерць збіла раварыста, пратараніла плот і хляўчук. Гэта здарылася 11 чэрвеня на вуліцы Ванцэці.

56-гадовы кіроўца выехаў на паласу сустрэчнага руху і збіў раварыста, які ехаў па краі праезнай часткі.

Веласіпедыст памёр у бальніцы. Асобу яго высвятляюць. На выгляд яму 40—45 гадоў.

**УШ**

## Сціслa

### Згубіў $5 тысяч, але знайшоў

Наведвальнік згубіў партфель з 5 тысячамі даляраў на выставе «Белагра-2016». Ён звярнуўся да амапаўцаў і паведаміў ім пра сваю страту. Прыкладна праз паўгадзіны партфель з грашыма знайшлі.

### Канструкцыя абвалілася

На «Беларуськаліі» 9 чэрвеня абвалілася металічная канструкцыя і забіла 27-гадовага рабочага.

### Не першы аўтобус скраў ужо

У Магілёве затрымалі 22-гадовага маладога чалавека, які скраў аўтобус «Багдан А-92». Высветлілася, што ў 2008 годзе ён ужо быў асуджаны на 2 гады абмежавання волі — таксама за спробу крадзяжу аўтобуса. А нашто хлопцу аўтобусы, нямаведама.

### Суіцыд у калоніі

У папраўчай калоніі №22 пад Івацэвічамі 3 чэрвеня засіліўся вязень. Вядома, што загінуламу яшчэ не было і трыццаці, ён быў асуджаны за распаўсюд наркотыкаў на 11 гадоў, а на волі ў яго засталося двое малалетніх дзяцей. Праводзіцца праверка.

### Зайшло ў галаву

Праваахоўнікі праводзяць праверку па факце смерці 15-гадовай брэсцкай старшакласніцы, паведаміў начальнік прэс-службы УУС Брэсцкага аблвыканкама Сяргей Дучэнка. Трагедыя адбылася ўвечары 8 чэрвеня каля станцыі Брэст-Усходні. Дзяўчына кінулася на рэйкі пад шляхавымяральны цягнік. Машыніст тармазіў, але ж цягнік не спыніў.

### Дапіліся

Дзве жанчыны пілі ў Мінску, і 42-гадовая забіла 39-гадовую. Пасля гэтага падазраваная патэлефанавала знаёмаму і папрасіла дапамагчы пазбавіцца ад цела, што ён і зрабіў, перанёсшы яго з кватэры на вуліцу.

### Не знік, а паехаў да бабулі

Васьмігадовы хлопчык, пошук якога распачалі ў Мінску, вырашыў самастойна наведаць бабулю ў вёсцы.

Пра знікненне 8-гадовага Фёдара Мазырца паведаміў пошукава-выратавальны атрад «Анёл». Праўда, праз некалькі гадзінаў хлопчык знайшоўся. Школьніка знайшлі жывога ў Пухавіцкім раёне Мінскай вобласці. Ён вырашыў самастойна дабрацца да сваёй бабулі, нікога не папярэджваючы.

**УШ**

# Ivan не ведае, хто такая Святлана Алексіевіч

Сустрэцца з Аляксандрам Івановым — ці Ivan'ам — давялося ў сталічным «Еўраопце» на Дзянісаўскай. Там спявак узяў удзел у розыгрышы аўтамабіля і выканаў сваю песню «*Help you fly*», з якой выступаў на «Еўрабачанні». Пачакаўшы, пакуль доўгая чарга ахвотных зрабіць фота ці атрымаць аўтограф скончыцца, «Наша Ніва» пацікавілася ў Аляксандра, чым ён жыве пасля конкурсу, як ацэньвае свой выступ і чаму Віктар Дробыш варты ордэна Скарыны.



**«Наша Ніва»: Раскажыце, што цяпер робіце, чым займаецеся пасля «Еўрабачання».**

**Ivan:** Працуем шчыльна на студыі. Запісалі песню. У хуткім часе яна з'явіцца на радыёстанцыях. Дай бог, з'явіцца і кліп. Пакуль не буду абяцаць, яшчэ не ведаю, але песня ўжо гатовая, майстарынг ужо прайшоў.

Цяпер пішам шмат песень. Збіраем песні, якія ўжо ёсць. Шмат дэмаверсій, шмат матэрыялу, засталося толькі скампанаваць гэты матэрыял, знайсці тыя самыя песні, уключыць іх у альбом.

**«НН»: На рускай або на англійскай пішаце?**

**Ivan:** І на рускай, і на англійскай. Мы сябе не абмяжоўваем у гэтым.

**«НН»: А на беларускай чаму не пішаце?**

**Ivan:** Мы пра гэта думалі, і я мяркую, што такая песня з'явіцца, і, можа, нават не адна. Мы гэта таксама не адмаўляем.

**«НН»: А гастролі? Цяпер няма ў вас нейкага тура?**

**Ivan:** У нас ёсць канцэрты.

**«НН»: Сольныя або зборныя?**

**Ivan:** Зборныя. Зборныя канцэрты, іх зараз будзе шмат. «Маёўка live» у Маскве прайшла. Калі прыедзем, будзе яшчэ «Music Box». Гэта значыць, канцэрты нейкія ёсць. А каб ехаць у туры і збіраць вялікія пляцоўкі, патрэбен матэрыял, над якім мы зараз працуем.

**«НН»: «Еўрабачанне» дало штуршок у плане папулярнасці?**

**Ivan:** Безумоўна. «Еўрабачанне»... Ведаеце, калі вы маеце зносіны з хлопцамі з іншых краін, дырэктары між сабой маюць зносіны, і, натуральна, хтосьці, дырэктар каманды, як, напрыклад, з Кіпра, «*Minus One*», таксама праводзіць там нейкія фэсты. І ўжо яны ведаюць, цябе запрашаюць. І, вядома ж, пазнавальнасць. Мне вельмі шмат пішуць і ў фэйсбуку, і ў прыват у інстаграме, і шмат пішуць, што дзіўна, Украінцы замежнікі. Я стараюся адказваць, але плынь занадта вялікая. І, вядома ж, прыярытэты трэба расстаўляць, я імкнуся адказваць бацьку, бо ён у мяне перыядычна сядзіць Укантакце. Яму стараюся адказваць, але ў асноўным мы стэлефаноўваемся.

**«НН»: Дык а на Кіпр вас запрасілі?**

**Ivan:** Так. Я, праўда, не ведаю, які фестываль, але ведаю, што такая прапанова паступіла. А ўжо дэталі высвятляюць PR-агенты і менеджары.

**«НН»: А замежныя гастролі? Хвалі такой не было?**

**Ivan:** Хваля, яна ёсць. Але не ехаць жа на гастролі з адной песняй.

**«НН»: То бок усё ізноў жа ўпіраецца ў матэрыял?**

**Ivan:** Зараз растлумачу. Матэрыялу таксама шмат, хопіць не на адзін альбом, таму што мы шмат пішам. Але гэты матэрыял павінны пачуць, а для таго, каб яго пачулі, трэба яго выпусціць, каб людзі разумелі, на што яны ідуць, што яны будуць слухаць на канцэрце.

**«НН»: А як вы ацэньваеце свой выступ на «Еўрабачанні»?**

**Ivan:** Мы спрацавалі на шмат адсоткаў. Проста на сто адсоткаў. І пасля таго, як я сышоў са сцэны, было абсалютнае шчасце. Перад выхадам на сцэну мне Віктар Якаўлевіч [Дробыш] сказаў: «Людзі прыйшлі сюды парадавацца. Зразумела, што адрэналін, і гэтак далей... Парадавацца, у прынцыпе. Яны бачаць цябе, яны хочуць і чакаюць усмешкі. Усміхайся! Радуйся!» І з такім настроем ён мяне проста вывеў на сцэну.

І я і сам «праташчыўся» ад таго, што адбылося. Бо гэта важны факт — самому атрымліваць асалоду ад таго, што адбываецца на сцэне. І рэпарцёры, якія бяруць інтэрв'ю на «Еўрабачанні», пра гэта часта кажуць. Выключаецца мікрафон, і яны кажуць: «Галоўнае, проста атрымлівай асалоду ад усяго, што тут адбываецца. Хочаш спяваць? Спявай, у цябе неймаверны шанец праспяваць на ўвесь свет! У цябе неймаверны шанец папрацаваць з вялікай колькасцю прафесійных людзей!» Там жа ўсё па апошнім слове тэхнікі.

І я лічу, што мы годна выступілі.

**«НН»: Але вы не выйшлі ў фінал.**

**Ivan:** Так.

**«НН»: Але вы не ацэньваеце свой выступ як нейкі правал?**

**Ivan:** Не, ні ў якім разе.

**«НН»: Але гэта ж і не поспех, не?**

**Ivan:** Ну, тое што мы не прайшлі кудысьці... Перамога, я лічу, вызначаецца пасля конкурсу. Бывае так, што чалавек займае першае месца, а потым яго няма. З незразумелых прычын.

**«НН»: Ці маеце на ўвазе, што хто лепшы — пакажа доўгая дыстанцыя?**

**Ivan:** Можа быць, і так. Што будзе пасля гэтага вялікага конкурсу з артыстам? Ці будзе ён цікавы і далей? Ці будуць сачыць за ім людзі?

**«НН»: А па вашай версіі, калі вы крута выступілі, атрымалі задавальненне і былі задаволеныя сабой, то чаму не выйшлі ў фінал?**

**Ivan:** Я не ведаю. Я не разбіраюся ў гэтым усім. Мы зрабілі музыку, нам гэтая песня вельмі падабаецца, я лічу яе годнай. І выступілі мы выдатна, годна, на 100%. Чаму так здарылася — я не ведаю. Так здарылася.

**«НН»: У нас «Еўрабачанне» — гэта конкурс дзяржаўнай важнасці. Няма пачуцця, што на вас паспадзяваліся, а вы падвялі?**

**Ivan:** Такога пачуцця няма. У нас быў выдатны нумар. Пра гэта казалі і працягваюць казаць арганізатары, удзельнікі з іншых краінаў, журналісты і ўсе, хто бачыў нумар і чуў песню.

**«НН»: А самі за каго заўзелі?**

**Ivan:** Цяжка сказаць, за каго я заўзеў, бо я ж знаходзіўся ва ўсім гэтым. Але спадабаўся Сяргей Лазараў, як спявае Джамала мне вельмі спадабалася. Спадабаўся [літовец] Доні Мантэл — і песня, і нумар.

**«НН»: Джамала заслужана перамагла?**

**Ivan:** З музычнага пункту гледжання, яна праспявала проста цудоўна. Я сядзеў у зале, па мне беглі мурашкі ад яе спеваў. Яна сапраўды вельмі моцны артыст.

**«НН»: А не з музычнай? Шмат хто кажа, што «Еўрабачанне» палітызуецца.**

**Ivan:** Я не ведаю. Усе артысты, якія знаходзяцца там, у тым ліку і я... Мы займаемся музыкай. Мы прыйшлі парадавацца, што мы і робім усе гэтыя 14 дзён. Мы выступаем, гутарым... Не ведаю. Але мурашкі ад спеваў Джамалы ў мяне былі.

**«НН»: А раз ужо зачапілі палітыку — вы цікавіцеся палітычным жыццём, сочыце за ім?**

**Ivan:** Я цікаўлюся музыкай. Сачу за новымі тэндэнцыямі ў музыцы. Хочацца, каб музыка, якую мы робім, была моднай.

**«НН»: Ну а на выбары прэзідэнта хадзілі ўвосені?**

**Ivan:** Не. У нас падрыхтоўка была да «Еўрабачання». Рыхтавалі нумар — ну вы прапумар, напэўна, ведаеце.

**«НН»: Вось пра нумар спытаю. Ідэя голага спевака з ваўкамі — хто аўтар?**

**Ivan:** Ідэя нарадзілася правільна. Мы не думалі паказаць сэкс ці эпатаваць. Мы разумеем, што конкурс — сямейнае шоу, якое глядзяць з дзецьмі. Мы хацелі паказаць узаемадзеянне прыроды з чалавекам, што прырода можа быць сябрам. І ў той жа час хацелі паказаць, што нешта цёмнае, злое можа стаць добрым.

**«НН»: Дык а хто прыдумаў? Вы?**

**Ivan:** Прадзюсар, Віктар Якаўлевіч Дробыш. Мы думалі: у што адзецца? Калі мы хочам паказаць узаемадзеянне чалавека з прыродай, паказаць, што чалавек прыродзе не вораг?

**«НН»: Ці пагадзіліся на гэтую задумку лёгка?**

**Ivan:** Так. Я давяраю яму [Дробышу] цалкам. А ён давярае мне.

**«НН»: Разумелі, што гэта выкліча шквал кпінаў, весялосці, інтэрнэт-мемаў і гэтак далей?**

**Ivan:** Мы разумелі, на што ішлі. Абсалютна. Гэта нармальна. Калі навіна пра наш нумар выйшла, зразумела, што былі такія каментары. З-за дэфіцыту інфармацыі людзі пачынаюць дадумваць, і, як правіла, дадумваюць у пошлы бок. Таму было столькі, скажам так, непазітыўных каментароў і жартачак.

**«НН»: А вы разумееце, што запомніліся не як хлопец з крутой песняй, а як той, хто збіраўся выступаць голы і з ваўкамі?**

**Ivan:** Гэта час пакажа.

**«НН»: Як увогуле працуецца з Дробышам?**

**Ivan:** Гэта асобная гісторыя, якую вельмі прыемна распавядаць. Часам мы проста шпацыруем разам па вуліцы, штосьці абмяркоўваем, разважаем: пра стылі, пра песні, пра гучанне, пра музыку, якую хочам рабіць... І гэта ўсё вельмі прыемна. Працуецца шыкоўна. Весела, з жартамі... Проста песня!

**«НН»: Заўважна, што вы з вялікай павагай ставіцеся да Дробыша.**

**Ivan:** Вядома.

**«НН»: А не так даўно Дробыш атрымаў ордэн Скарыны. На ваш погляд, ён яго варты?**

**Ivan:** Так.

**«НН»: А чаму? У чым яго ўклад у беларускую культуру?**

**Ivan:** Ну, па-першае, у яго карані беларускія, ён беларус. Ну і напісаў вельмі шмат выдатных песень. І я лічу, што ён варты гэтага.

**«НН»: Ну а Алексіевіч, напрыклад, ордэн не атрымала.**

**Ivan:** Хто?

**«НН»: Святлана Алексіевіч.**

**Ivan:**... (*Паціскае плячыма*)

**«НН»: Вы ведаеце, хто гэта? Не? Нобелеўская лаўрэатка беларуская, не, не ведаеце?**

**Ivan:** Я проста неяк больш па музыцы...

**«НН»: Окей, тады выбачайце.**

**Ivan:** Я шмат чаго не ведаю. Я і ў расійскім шоу-бізнэсе шмат каго не ведаю, і часам бывае няёмка.

**«НН»: Добра. Жывяце вы і зарабляеце ў асноўным у Расеі?**

**Ivan:** Так. Прадзюсарскі цэнтр там, у Маскве, і мне прасцей працаваць там на студыі.

**«НН»: І як вам Масква?**

**Ivan:** Добра. Я першы раз, калі прыехаў, там нешта будавалася, было бруднавата... Мне не вельмі спадабалася. Ну, проста я ў такі час года прыехаў. А цяпер нармальна. Шпацыраваў у парку Горкага летам — прыгожа. Але сумую па гомельскім парку. Вось, дарэчы, паеду неўзабаве.

**«НН»: Да бацькоў?**

**Ivan:** Так. Доўгі час іх не бачыў: «Еўрабачанне», падрыхтоўка да яго... Нарэшце мы сустрэнемся.

**«НН»: Не хапае бацькоў?**

**Ivan:** Вядома, не хапае. Усё роўна, малады ты ці не малады. Ведаеце, кажуць: «Вы ніколі нідзе не пабываеце па-сапраўднаму, калі не вернецеся пасля гэтага дадому». Я і ў Рызе быў, і ў Тэль-Авіве, і ў Амстэрдаме, і ў Кіеве, і ў Швецыі... І хочацца, вядома, падзяліцца гэтым з бацькамі.

**«НН»: Ваш дом пакуль яшчэ ў Гомелі?**

**Ivan:** Вядома. Я там вырас. І мяне туды цягне.

Гутарыў Уладзіслаў Швядовіч

Нямецкая якасць па даступнай цане
ЗНІЖКІ! Цана ад вытворцы! Любая складанасць
Вокны ПВХ
за 3 дні!
* растэрміноўка плацяжа без %
* рассоўныя балконныя рамы (алюміній і пвх)
* абшыўка балконаў
* аддзелка адкосаў
REHAU SALAMANDER
МТС 8(029)777-99-06
Vel 8(029)386-00-06
ГАРАНТЫЯ 12 гадоў якасці
ІП Захарэвіч В.К. УНП 190973657

